№3(36)
2002г.
сакавік

# ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Грамадска - палітычная, асветніцкая газета

Выдаецца са жніўня 1996 г.

Кошт свабодны

Гэтая вуліца раней называлася **праспект Князя Трубяцкога**, зараз мае назву **праспект Рэвалюцыі**, а людзі яе раней заўсёды звалі

**Вялікая вуліца**

Пра гісторыю яе ўтварэння і развіцця чытайце на старонках 8-9

*Тэатр абсурду*

## Барысаў рыхтуецца да 900-годдзя: знішчэнне гістарычнай забудовы ў цэнтры старога горада ідзе поўным ходам

У апошняй дэкадзе лютага быў знесены адзін са старых будынкаў па вуліцы III Інтэрнацыянала. Зроблена гэта было ў рамках падрыхтоўкі горада да юбілею. Прычына такога нечаканага кроку – дрэнны стан будынка, што быў узведзены напрыканцы XIX – пачатку XX стагоддзя, і адсутнасць сродкаў на яго рамонт. Аднак, нават сярод тых, хто яго зносіў, былі тыя, хто жыве ў будынках, якія знаходзяцца ў значна горшым стане.

Ці не мэтазгодней было яго прадаць, хай сабе за сімвалічны кошт, на аўкцыёне пад абавязацель-

*(Заканчэнне на стар. 3)*





*Разбурэнне сцен будынка. Яно пачалося 22 лютага і было скончана 25 лютага. Знішчаюцца апошнія сцены (зверху)*
*Так выглядаў будынак па вуліцы III Інтэрнацыянала ў сярэдзіне лютага перад пачаткам асноўных работ па яго знішчэнню (злева)*







## Хочаш у Інтэрнэт – калі ласка!

Скарыстацца магчымасцямі сеткі Інтэрнэту зможа цяпер кожны жадаючы барысавец. Барысаўскі раённы вузел электрычнай сувязі адкрыў у Доме сувязі пункт калектыўнага карыстання Інтэрнэтам, дзе можна патраціць у віртуальны свет заплаціўшы 19,93 руб за хвіліну працы. Спецыялісты пракансультуюць вас і дапамогуць выйсці ў сетку, калі вы не маеце дастатковага вопыту работы на кампутары.

*Служба інфармацыі "ГБ"*

## "Жанчынай 2001 года" прызнана Валянціна Заяц

12 лютага адбыўся чарговы пленум гарадскога жаночага савета, асноўнае пытанне якога гучала так: "Аб ролі жаночага актыву ў падрыхтоўцы моладзі да стварэння сям'і і мацярынства".

Выступоўцы адзначалі, што ў горадзе шмат чаго робіцца дзеля дапамогі маладым людзям. У ЗАГСе працуе клуб маладажонаў, прапагандуюцца народныя традыцыі ў правядзенні вяселля й іншых сямейных урачыстасцей, выходзіць спецыяльная праграма на тэлебачанні і многае іншае.

Вялікую заклапочанасць выклікае стан здароўя моладзі, асабліва здароўе будучых мам. Медыцынскія агляды дзяўчат-падлеткаў нашага горада паказалі, што 60,5% будучых мам маюць гінекалагічныя захворванні. Адзін з 10 абортаў робіцца непаўнагадовым дзяўчынам, што самым дрэнным чынам адбіваецца на іх здароўі.

Т.Дронава прапанавала ўвесці абавязковае абследаванне маладажонаў перад рэгістрацыяй шлюбу. В.Шутко паведаміла пра хуткае адкрыццё Цэнтра сацыяльнай дапамогі сям'і і дзецям. Быў прыняты зварот да кіраўнікоў прадпрыемстваў і арганізацый аб матэрыяльнай падтрымцы таварыства "Чырвонага Крыжа".

На пленуме была вызначана "Жанчына 2001 года". Ёю была прызнана загадчыца аддзела сацыяльнай абароны насельніцтва Валянціна Валянцінаўна Заяц.

*Служба інфармацыі "ГБ"*

## Вясна кліча ў вандроўку

Крадзяжы з кватэр, гаражоў, хляваў складаюць пераважную частку аператыўных зводак міліцыі. Што толькі не крадуць: тэлевізары і магнітафоны, ручнікі і бялізну, крупы і алей, золата і дываны, курэй і свінак. Нярэдка цягнуць і ровары, асабліва з лесвічных пляцовак дамоў і інтэрнатаў. На Млынавым завулку злодзей залез за роварам проста ў хату, збіўшы замок з дзвярэй. Падобна на тое, што ён збіраўся ў веснавую вандроўку, бо нічога асабліва каштоўнага больш не ўзяў, а толькі прыхапіў яшчэ радыёпрыёмнік "Турыст" і ватоўку.

Цікава, ці далёка паспее з'ехаць рамантычна настроены злодзей ад нашай славутай міліцыі?

*Служба інфармацыі "ГБ"*

Да 900-годдзя Барысава

*Чытайце ў наступным нумары нашай газеты:*

**"Гісторыя Барысава ў датах"**

Найбольш поўная гісторыя нашага горада, якая сканцэнтравана ў датах.

*У адным з бліжэйшых нумароў чытайце:*

**"Замкі Барысава"**

Барысаў у сваёй гісторыі меў тры замкі на левым беразе Бярэзіны і бастыёны на яе правым беразе. Усе яны будаваліся ў розныя часы і з'яўляліся адбіткам свайго часу. Апошнім часам з'явілася шэраг публікацый на гэту тэму. Але пра барысаўскія замкі сказана яшчэ далёка не ўсё...

Карэспандэнцкі пункт нашай газеты знаходзіцца па адрасе: **пр-т Рэвалюцыі, 33**
Чакаем вас у **аўторак** з **15** па **17** гадз.,
у **чацвер** з **10** па **11** гадз.
У гэты ж час тэлефануйце нам па тэлефоне
**6-35-81**
або ў іншы час па тэл./факсу
**9-56-86**

**Падпісвайцеся на газету "Гоман Барысаўшчыны"!**
**Падпісны індэкс 64184**
**Кошт індывідуальнай падпіскі без тэлевізійнага дадатку:** на 1 месяц - 250 руб., на 3 месяцы - 750 руб.
**Кошт індывідуальнай падпіскі з тэлевізійным дадаткам:** на 1 месяц - 550 руб., на 3 месяцы - 1650 руб.
**Кошт ведамаснай падпіскі без тэлевізійнага дадатку:** на 1 месяц - 350 руб., на 3 месяцы - 1050 руб.
**Кошт ведамаснай падпіскі з тэлевізійным дадаткам:** на 1 месяц - 750 руб., на 3 месяцы - 2250 руб.

## Ад нумара да нумара

**Памяць**

*Свята 23 лютага было адзначана, перадусім, ускладаннем вянкоў і кветак да магіл абаронцаў Радзімы,да помнікаў і абеліскаў, пастаўленых у гонар і памяць людзей, што аддалі сваё жыццё за мір і спакой на нашай зямлі.*

**Дзень абаронцаў**

*23 лютага ў Пячах адбыўся дзень адкрытых дзвярэй, дзе можна было ўбачыць баявую тэхніку, пачуць ваенны аркестр, пакаштаваць салдацкай ежы і пагладзець на выступленне 20 элітных вайскоўцаў, якія дэманстравалі перад гледачамі сваю падрыхтоўку да справы абароны Айчыны.*

**Растуць угару**

*У сярэднім на 19 % павялічаны ў лютым бюджэт пражытачнага мінімуму, які склаў цяпер 62568 руб. З 1 сакавіка павялічаны і памер мінімальнай зарплаты: з 10 тыс.руб. да 17 тыс.руб.*

**Забарона**

*З 1 сакавіка на рынку "Стадыён" спыніўся гандаль прадуктамі. Забарона тлумачыцца тым, што на рынку адсутнічае служба санітарна-ветэрынарнага надзору.*

**ВІЧ-інфекцыя наступае**

*За 2 мінулыя месяцы ў горадзе зарэгістравана чацвёра хворых на СНІД. Трое з іх ужываюць наркотыкі. Медыкі апасаюцца хуткага распаўсюджання інфекцыі ў асяродку наркаманаў, афіцыйная лічба іх колькасці ў горадзе - 560 чалавек, фактычную ж не ведае ніхто.*

**Рэканструкцыя**

*З наступленнем цяпла зачыніцца на 2 месяцы рынак у старым горадзе. Тут плануецца правесці комплекс рэстаўрацыйных работ.*

**Разумны загад**

*З 1 сакавіка па загаду міністра ўнутраных спраў пашпартнавізавая служба і МРЭА пачынаюць працаваць без выхадных, да 20 гадзін, а ўлетку да 21 гадзіны. Успомніўшы чэргі ў нашым пашпартным стале, нельга не прызнаць загад міністра сапраўды мудрым.*

**Ініцыятыва**

*Бацькоўскі камітэт 17 СШ выступіў са зваротам да гараджан, якія гадуюць дзяцей, і заклікаў звярнуць увагу на цяжкі матэрыяльны стан школ і садкоў і дапамагчы грашыма, матэрыяламі, асабістым працоўным укладам.*

**Акцыі**

*Актывісты незарэгістраванай маладзёвай кааліцыі "Акцэнт" 10 лютага прыбралі смецце ў дварах дамоў па праспекту Рэвалюцыі. Такім чынам, моладзь зрабіла карысную справу і напомніла гарадскім уладам, што трэба апекавацца не толькі чысцінёй бачных месцаў, але і задворкаў.*

***

*12 лютага адбылася яшчэ адна акцыя моладзі, на гэты раз актывістаў руху "Зубр", якія ля прахадной завода агрэгатаў выдавалі зарплату рабочым самаробнымі купюрамі ў 100 "лукашыкаў".*

*Падобныя акцыі прайшлі, акрамя Барысава, у Маладзечне, Смалявічах, Жодзіне, Крупках, Вілейцы, Мар'іной Горцы, Свіслачы.*

***Служба інфармацыі "ГБ"***



## Дзень памяці воінаў-інтэрнацыялістаў

15 лютага, у дзень заканчэння афганскай вайны, барысаўцы сабраліся ля помніка воінам-інтэрнацыяналістам, каб ушанаваць памяць загінуўшых і сустрэцца з жывымі ўдзельнікамі афганскіх падзей. Да помніка былі ўскладзены вянкі і кветкі, прагучаў салют.

На Барысаўшчыне жыве 18 сямей загінуўшых афганцаў і 1000 ветэранаў афганскай вайны. 21 чалавек з ліку афганцаў з"яўляюцца інвалідамі, 154 - былі паранены ці кантужаны. Дзве трэці ўсіх ваяваўшых у Афганістане перанеслі там цяжкія інфекцыйныя захворванні, звязаныя з паўднёвым кліматам. Больш 200 былых воінаў маюць вострую патрэбу ў лячэнні.

Ветэраны-афганцы актыўна ўдзельнічаюць у грамадскім жыцці горада. Пра гэта сведчыць той факт, што з 21 дэпутата гарсавета пяцёра - былыя воіны-інтэрнацыяналісты.

***Служба інфармацыі "ГБ"***

## Раўненне на лепшых

*За 85 гадоў свайго існавання барысаўская міліцыя прайшла цяжкі і гераічны шлях. Нямала выдатных людзей стваралі яе гісторыю, якая складае неад'емную частку гісторыі ўсёй беларускай міліцыі.*

*Цяпер ужо немагчыма пералічыць усіх тых, хто стаяў ля вытокаў рабоча-сялянскай народнай міліцыі, хто, не шкадуючы сіл, здароўя і жыцця – у цяжкіх умовах грамадзянскай вайны, у час першых пяцігодак, у гады ваеннага ліхалецця 40-х гадоў і ў пасляваенны перыяд нёс нялёгкую службу па ахове правапарадку, раскрываў і расследаваў злачынствы і ў мірных умовах паказваў прыклады мужнасці, адвагі, самаадданасці, гераізму.*

Сённяшняе пакаленне барысаўскіх міліцыянераў добра ведае пра найвышэйшых прафесіяналаў, удзельнікаў вайны К.С.Ісаёнка, І.І.Давідовіча, А.М.Бацанова, Р.І.Ніканоціча і многіх іншых, актыўна выкарыстоўвае багацейшы вопыт іх вучняў А.В.Карпіевіча, С.М.Мазаля, М.У.Валкаўца, М.Ф.Паўлаўца, В.В.Паўловіча, П.Е.Галадка і яшчэ дзесяткаў іншых выдатнейшых спецыялістаў. Толькі пералічэнне іх імён магло б заняць не адну старонку.



*Мікалай Палітыка*



*Сяргей Карась*

Сённяшнюю гісторыю гарадской міліцыі ствараюць такія супрацоўнікі, як сышчыкі-кіраўнікі Мікалай Кірык і Міхаіл Курковіч, узнагароджаныя медалём "За выдатныя поспехі ў ахове грамадскага парадку", Сяргей Карась - оперупаўнаважаны крымінальнага вышуку, крыміналісты Аляксандр Пратасаў і Алег Маліноўскі, Уладзімір Якімовіч са службы БЭЗ, Мікалай Палітыка, Дзяніс Лінннік, Уладзімір Урбановіч, Уладзімір Фёдараў з патрульна-паставой, Аляксандр Лемешаў і Аляксандр Вангліцкі са службы ДАІ, маладыя супрацоўнікі, але ўжо паспеўшыя зарэкамендаваць сябе з самага лепшага боку Максім Вараб'ёў, Дзмітрый Галькевіч, Аляксей Бондараў.



*Аляксандр Пратасаў*

З такім чалавечым патэнцыялам супрацоўнікі Барысаўскага аддзела ўнутраных спраў у стане забяспечыць грамадскі парадак і спакой гараджан, з гонарам несці ганаровае званне абаронцы правапарадку.

***Начальнік Барысаўскага ГАУС А.П.Будзько, палкоўнік міліцыі***



*Так выглядае вуліца Гагарына непадалёк ад помніка П.Раку. Тут, на перакрыжаванні з праспектам Рэвалюцыі, будзе пабудавана транспартная развязка, дзякуючы якой з праспекта можна будзе напрамкі патрапіць на магістраль.*

## Дарога будзе пашырацца

Ведаючы, што наша газета мае выразны экалагічны напрамак, у рэдакцыю звярнуліся жыхары вуліцы Гагарына з просьбай разабрацца, чаму насупраць магазіна "Спадарожнік" спілаваны здаровыя дрэвы.

З гэтым жа пытаннем мы звярнуліся ў інспекцыю па ахове акаляючага асяроддзя да яе кіраўніка Штанюка В.І. Як ён нам паведаміў, сапраўды, інспекцыя дала дазвол на ўказаныя работы ў сувязі з намерам мясцовых уладаў пашырыць палатно дарогі. А ўсяго будзе зліквідавана 650 дрэў.

Валерый Іванавіч прасіў не хвалявацца, таму што праблем з новымі насаджэннямі не будзе.

Тым не менш, ад рэдакцыі газеты хацелася б выказаць неспакой па той прычыне, што ўжо другі год запар старыя насаджэнні ў горадзе выпілоўваюцца, а новых асабліва не відаць. Ды і колькі ж год прыдзецца чакаць, каб падраслі новыя дрэвы, сталі здольнымі ачышчаць забруджанае паветра?

Добра, калі ў горадзе ёсць праграма абнаўлення былых пасадак. А калі гэта толькі чарговая кампанія ў юбілейны год?

Інспекцыі трэба больш пільна сачыць за станам зялёнай зоны горада.

***М.Пучыла***

## Без "Перамогі" нам нельга

Калі на фасадзе барысаўскага кінатэатра "Перамога" з'явілася (летам 1985 года) каляровае панарамнае пано ў выглядзе сонца – вясёлкі, я неўзабаве сфатаграфаваў усю гэтую прыгажосць (гл. фотаздымак, які быў зроблены ў студзені 1986 года).

Да нядаўняга часу мазаіка – тынкоўка на фасадзе яшчэ трымалася, але раптам пачала адлятаць, як падцверджанне таго, што нічога вечнага няма... Таму кіраўніцтвам горада вырашана: да 900 – годдзя Барысава зрабіць тэрміновую рэканструкцыю дадзенага будынка (пабудаваны ў 1966 годзе), альбо нешта іншае зрабіць у мастацкім сэнсе (?) на фасадзе гістарычнага кінатэатра, які побач са Свята – Уваскрасенскім саборам ды гандлёвымі шэрагамі ставарае адзіны архітэктурны ансамбль старажытнага места – горада Барысава.

***А.Шустоўскі***






*Выгляд кінатэатра "Перамога" зараз (зверху) і ў 1986 годзе (знізу)*

*Барысаўскае аддзяленне Беларускай асацыяцыі былых малалетніх вязняў фашызму запрашае былых вязняў, а таксама ўсіх зацікаўленых на гадавы сход, які адбудзецца 28 сакавіка ў 11 гадзін у памяшканні гарадскога Палаца культуры.*

***Праўленне асацыяцыі. Кантактны тэлефон 3-96-68.***

***Падзяка і пажаданні Ганне Пятроўне Хаткоўскай, Урачу Барысаўскай ЦРБ***

Вам дзякую, Ганна Пятроўна,
Жадаю дабра сто пудоў,
Вялікі бярэмак здароўя
І шчасця на сотню гадоў.

Няхай, як ручай чысты, весні,
Шчаслівая доля журчыць.
Няхай салаўінаю песняй
Пяшчотна жыццё прагучыць.

Хай медыкам Божая сіла
Спрыяе паўсюдна, заўжды,
Да самае цёмнай магілы
Ахоўвае дні і гады.

***Дзмітрый Самойленка***

# Слёзы не высахнуць

*Дарагая рэдакцыя! Я пішу пра тое, пра што не магу маўчаць. У кастрычніку мінулага года споўнілася дзевяць год з таго дня, як не стала майго сыночка Алёшы. Яму было тады каля 18 год. А сёлета 9 студзеня майму сыну споўнілася б 27 гадочкаў.*

У гэты дзень я вырашыла напісаць радкі памяці аб ім – аблітыя мацярынскімі слязамі.

Закончыў Алёша 11 класаў. Ужо тады быў хворы, але паступіў у радыётэхнічны тэхнікум. Толькі ж вучыцца яму не давялося ніводнага дня…

Алёша быў заўсёды вясёлым, добрым, любіў жыццё і людзей. У яго было шмат сяброў, якія і цяпер ходзяць на яго магілу.

Наша сям'я жыла раней у Гомельскай вобласці. Пасля Чарнобыльскай катастрофы бязлітасная смерць забрала майго сыночка…

Ён быў такім светлым чалавекам, любіў музыку, іграў на кларнеце, гармоніку, гітары, хораша спяваў. Вельмі любіў мастацкую літаратуру, перачытаў мноства самых разнастайных кніг з усіх бібліятэк горада.

Як жа нам усім цяпер яго не хапае! У мяне было шасцёра дзяцей: пяцёра сыноў і адна дачка. Але што ж рабіць цяпер… Разумею, што нічога не зробіш. Застаецца толькі адно: змірыцца і жыць далей. Жыць і гаварыць аб ім з тымі, хто ведаў і любіў майго Алёшу, а таксама і з незнаёмымі людзьмі. Гэтак будзе можа крыху лягчэй мацярынскаму сэрцу.

*А.Сярогіна, маці*

# "Гісторыя, якой няма ў падручніках"

*Пад такой назвай прайшоў 16 лютага ў актавай зале ЦГБ семінар, арганізаваны грамадскім аб'яднаннем "Беларуская жаночая ліга".*

На сустрэчу з менскімі гісторыкамі сабралася каля 40 зацікаўленых, пераважна прадстаўнікі барысаўскіх грамадскіх арганізацый: БНФ "Адраджэнне", праваабарончага цэнтра "Вясна", маладзёвага руху "Зубр", аддзялення БХК і інш.



*Адзін з кіраўнікоў Слуцкага паўстання, ураджэнец в.Краснaлукі Барысаўскага павета Уладзімір Пракулевіч*

Перад удзельнікамі семінара выступілі навуковыя супрацоўнікі Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі Ніна Іванаўна Стужынская, яна ж - прэзідэнт грамадскага аб'яднання "Беларуская жаночая ліга", і Андрэй Леанідавіч Кыштымаў. Менскія госці прывезлі з сабой выставу "Беларускі Рэзістанс.1917-1920 гады.", стэнды якой былі размешчаны тут жа, у актавай залі.

Ніна Стужынская многа гадоў займаецца гісторыяй антысавецкага ўзброенага супраціву на Беларусі. Яна прадставіла і падаравала барысаўцам сваю кнігу "Беларусь мяцежная", якая выйшла ў 2000 годзе ў Вільні. У кнізе сабраны багаты матэрыял па Слуцкаму паўстанню і дзейнасці антысавецкай партызанкі ў 20-ыя гады XX ст. Ва ўступе да кнігі адзначана, што "постсацыялістычная гістарыяграфія ўрэшце адмовілася ад стэрыятыпу называць бандытызмам масавую барацьбу сялян супраць палітыкі ваеннага камунізму і карных метадаў кіравання вёскай. А ўзброены пратэст асноўнай масы насельніцтва супраць дзяржаўнага прыгнёту перастала зводзіць да крымінальных і разбойных дзеянняў, як гэта рабіў савецкі афіцыёз".

Масавы рух супраціву меў у 20-ыя гады XX стагоддзя вялікі размах у Беларусі, але гісторыя яго пакуль малавядома. Дзякуючы выступленню Ніны Стужынскай, прысутныя на семінары барысаўцы атрымалі магчымасць пазнаёміцца з гэтымі старонкамі гісторыі Беларусі, убачыць дакументы і фотаздымкі ўдзельнікаў падзей, якія доўгія гады былі схаваны ў архівах КДБ. Ніна Іванаўна звярнула ўвагу прысутных на тое, што з Барысаўскага павета паходзяць тры вядомых паўстанцы: Уладзімір Пракулевіч, Лукаш Семянюк і Ягор Моніч.

З цікавымі фактамі эканамічнай гісторыі Беларусі пазнаёміў прысутных Андрэй Кыштымаў. Ён адзначыў высокі ўзровень развіцця гаспадаркі Беларусі ў XIX стагоддзі, у прыватнасці, чыгуначных і водных шляхоў. Калі сёння з Польшчай нас звязваюць толькі 2 чыгункі, то ў XIX стагоддзі выехаць у Польшчу можна было па сямі чыгуначных шляхах. Таксама цікава было пачуць, што ўжо праз шэсць гадоў пасля з'яўлення тэлефона ён быў усталяваны ў маёнтку гр.Паскевіча ў Беларусі, а неўзабаве была праведзена і першая міжгародная тэлефонная лінія – паміж Менскам і Барысавам.

Спадар Андрэй адзначыў, што сапраўдная эканамічная гісторыя Беларусі дасавецкіх часоў даследавана пакуль недастаткова, і ў гэтай галіне нас чакае шмат новых і цікавых адкрыццяў, якія дазволяць ганарыцца гаспадарлівасцю і працавітасцю нашых дзядоў і прадзедаў.

Удзельнікі семінара ўсклалі кветкі да памятнага крыжа ахвярам бальшавізму на "Батарэях"

*Е.Граковіч*





# Барысаў рыхтуецца да 900-годдзя . . .

(Заканчэнне, пачатак на стар. 1)

...ства яго рэстаўрацыі? Гэта дазволіла б захаваць для горада стары дом, былі б сэканомлены бюджэтныя сродкі.

Знішчэнне старога будынка ў гістарычным цэнтры Барысава не засталося па-за ўвагай грамадскасці. 20 і 21 лютага каля яго былі праведзены актывістамі руху "Зубр" пікеты, на якіх прыцягвалася ўвага барысаўцаў да неабходнасці захавання старой архітэктуры Барысава, раздаваліся адпаведныя ўлёткі.

Ва ўсім свеце лічыцца за гонар захаванне і прапаганда сваіх гістарычных каштоўнасцей. Ёсць нямала прыкладаў, калі старыя будынкі, нават цэлыя кварталы гістарычных цэнтраў гарадоў аднаўляліся з падмуркаў. У Барысаве, на жаль, адбываюцца адваротныя працэсы…

Наш горад у параўнанні з многімі беларускімі гарадамі не мае вельмі старых і адметных архітэктурных помнікаў. Але ў Барысаве, нягледзячы на шматлікія войны і іншыя навалы, захавалася каля сямі дзесяткаў цагляных будынкаў XIX – пачатку XX стагоддзя, якія ўтвараюць варты аховы стары цэнтр з уласцівым таму часу асяроддзем. Знішчаны будынак сам па сабе вялікай гістарычнай каштоўнасці не меў. Аднак менавіта такія будынкі і ўтвараюць саму атмасферу старога горада. Разам з іх знікненнем знікае і тая атмасфера.

Па звестках, якія маюцца ў распараджэнні рэдакцыі, будынак па вуліцы III Інтэрнацыянала не адзіны, які будзе знішчаны падчас падрыхтоўкі да 900-годдзя горада. Такі лёс напаткае па меншай меры яшчэ два старых будынкі. Які будзе наступным?

*М.Мацельскі*

*Будынак міліцыі на рагу вуліц Камсамольская і Лапаціна (зверху). Ён таксама ў бліжэйшы час будзе знесены*

*Пікет у абарону старога дома па вуліцы III Інтэрнацыянала (знізу)*





# Заляпаем і пераляпаем!

Ці звярталі вы, шаноўныя чытачы, увагу на шыльдачкі, якія ўказваюць назву вуліцы і нумар дома? Часам з іх дапамогаю можна разглядзець досыць цікавыя рэчы.

Напрыклад, на адным з вуглоў дома па вуліцы 50 год БССР можна назіраць аж пяць камплектаў з такімі шыльдачкамі і надпісамі. Ужо ляпіць дык ляпіць! Такое адчуванне, што адпаведным службам болей падабаецца сам працэс нанясення подпісаў, чым іх нагляднасць і функцыянальнасць. Можна сабе толькі ўявіць, што будзе тут рабіцца напрыканцы тэрміну эксплуатацыі гэтага дома!?

Аднак у гэтым ёсць адзін станоўчы момант. Кожная шыльда або надпіс рабіліся ў пэўны перыяд развіцця нашай краіны і нясуць адпаведны адбітак. Такім чынам, сцены такіх дамоў з'яўляюцца гатовымі падручнікамі па нядаўняй гісторыі нашага краю. Так, старыя шыльдачкі, што рабіліся ў савецкі час, не адрозніваліся сваёй якасцю, падпісваліся выключна па-руску і даўно ўжо не чытаюцца. У першай палове 90-х гадоў у грамадстве былі вялікія надзеі, дзе-нідзе з'яўляліся прыкметы пачатку адраджэння грамадства, вяртання яго да сваіх гістарычных каранёў. Таму і тагачасны надпіс на доме быў зроблены найбольш якасна і зручна для ўспрыняцця. Прычым ён быў выкананы пабеларуску. Пазней з'явіліся тэндэнцыі да вяртання да савецкага ладу жыцця з узмацненнем планавасці, русіфікацыяй грамадства і вынішчэння ўсяго беларускага. Таму і шыльда, якая была зроблена ў гэты час, амаль нічым не адрозніваецца ад савецкай, выканана па-руску і па-хамску насаджана на самы з якасных надпісаў, які рабіўся па-беларуску. Аднак гэтая шыльда, як і шыльда савецкіх часоў, відаць, не зможа доўгі час інфармаваць людзей. Таму праз колькі часу трэба чакаць з'яўлення новай шыльды. Якой яна будзе, невядома, але можна не сумнявацца, што яна, як і ўсе папярэднія, будзе адбіткам свайго часу.




Можа да 900-годдзя Барысава варта ўсталяваць на гэтым доме яшчэ адну шыльду, якая б узяла пад ахову ўсе астатнія шыльдачкі і подпісы як помнікі сваіх часоў?

*Я.Юроўскі*



# Кашмары на вуліцы Гагарына

*За доўгімі размовамі аб культуры грамадзянскага быту мы, як гэта ні парадаксальна, штодзённа толькі ўшчэнт знішчаем рэшткі таго, што яшчэ можна было б называць той самай культурай быту. Некалі яшчэ было сорамна маладому чалавеку пыхкаць цыгарэтай у твары людзям, стоячы ў натоўпе на аўтобусным прыпынку. Цяпер жа ні-ні!*

Чалавек сярод людзей – не толькі дома ці на вуліцы, а ў большай меры яшчэ і на рабоце. Знаходзячыся пры выкананні службовых абавязкаў, хочаш ці не, а проста павінен лічыцца з іншымі, пастаянна клапаціцца з-за таго, што цябе чуюць, бачаць, абаняюць табе падобныя. А таму правілы грамадскіх паводзінаў, якім вучаць яшчэ ў дзіцячым садзе, не варта ўсё ж так наглуха забываць, сеўшы ці то ў мяккае начальніцкае крэсла, ці то на абшарпаны і хісткі канторскі табурэт.

Аўтазаправачную станцыю насупраць дома № 70 па вуліцы Гагарына абсталявалі з улікам сучаснай вытворчай культуры: і пафарбавана, і заасфальтавана, і падмецена – нічога не скажаш. Нават дынамікі ў апошні час устанавілі для еўрапейскай зручнасці вытворчых зносінаў. І так ужо пастараліся пры гэтым, што цяпер сведкам гэтых зносінаў міжволі стала ўсё насельніцтва прылягаючага мікрараёна.

А справа ў тым, што начамі будзіць жыхароў раёна зычны камандзірскі голас "аўтазаправачнай" цёткі, якая загадвае сваім кліентам некудыісці, некуды несці, нешта ўключаць і г.д. Дайшло да таго, што, змучаныя вымушанай бяссонніцай, людзі вывучылі на памяць імёны работнікаў запраўкі, нібыта герояў бразільскага серыялу. А бывае яшчэ, што ўсе тыя Тані-Валі-Галі як шчэпяцца сварыцца ў начным гучнагаворачым эфіры – дык атрымліваецца драма, мудрэйшая за ўсялякі заморскі серыял.

Ну няўжо нельга здагадацца таму, хто тыя дынамікі ўстанавіў і штодня ўключае, што пры такім узроўні гучнасці яны прычыняць нязручнасць сотням, калі не болей, людзей! Няўжо так цяжка гучнасць зменшыць да таго ўзроўню, каб "вытворчую" сварку Галіны чула толькі Мальвіна, а не перапалоханыя людзі ва ўсёй акрузе!

Вядома ж – не цяжка. Але толькі ў тым выпадку, калі б той, хто ўключае, быў чалавекам культурным і, як належыць культурнаму чалавеку, паважаў іншых людзей. Не рабіў бы ён такой брыдоты і тады, каб быў дастаткова выхаваным і ўмеў паважаць самога сябе.

***А.Турко***

# Наша вялікая таямніца





Ні для каго з барысаўцаў не сакрэт, што горад наш прыгажэе з кожнай гадзінай, укладаюцца вялікія сродкі ў яго перабудову, афарбоўку, ачыстку.

Застаецца толькі гадаць, чаму ля вакзала, на самым бачным месцы мы развялі такі бруд, такую безліч сметнікаў, хаця, каб прыбраць іх, не трэба ўкладання істотных сродкаў, а патрэбны толькі добрыя рукі дворніка.

Мабыць, у гэтым ёсць вялікі сэнс. Баімся мы, што такі прыгожы горад могуць сурочыць нядобрыя вочы чужынцаў, якія праязджаюць праз наш горад, вось і развялі адмыслова для іх гэтую брыдоту.

Так захаваецца наша таямніца пра тое, які ўтульны і чысты горад Барысаў.

Мы будзем ведаць, а ім ні за што не здагадацца!

***Е.Граковіч***

# Вынікі супрацьпажарнай бяздзейнасці

За мінулы 2001 год у Рэспубліцы Беларусь адбылося 12942 пажары, у якіх загінула 1102 чалавекі. З гэтай колькасці 53 – гэта дзеці. У Менскай вобласці – 2574 пажары, загінулі 234 чалавекі, з іх 13 дзяцей. У Барысаве і раёне адбылося 333 пажары. Матэрыяльныя страты склалі больш 560 млн. рублёў.

Такім чынам, супрацьпажарная культура і выхаванне ў нас паранейшаму на вельмі нізкім узроўні.

***М.Пучыла***

# Будзённы рэпартаж

Неяк і няёмка, бадай, пісаць пра тое, міма чаго штодня праходзіш.

Але ж колькі можна праходзіць, упіраючыся вачыма ў брудную лесвіцу і думаць па звычцы, што колькі не абурайся, а ўсё будзе так, як яно ёсць?!

Сцэны ў пад'ездзе вось гэтымі "мастацтвамі" распісалі нечыя дзеткі. Можа, гэта справа "чадаў" тутэйшых бацькоў, а можа, й прышлых, бо ў пад'ездзе няма дамафона. Лесвіцу таксама ёсць каму забрудзіць, але няма каму памыць.

Гэтыя забітыя шурпатымі дошкамі дзверы, якія нагадваюць уваход у пустуючы калгасны склад, вядуць на пляцоўку з кватэрамі прыемных, інтэлігентных, але бедных людзей. Дзе і як узяць грошай на моцныя металічныя дзверы, калі кватрплата ў нашым прадзьмутым вятрамі кааператыўным дзевяціпавярховіку вось-вось дасягне еўрапейскага ўзроўню!

Затое даволі далёкія ад еўрапейскага стандарту агульныя ўяўленні аб персанальнай адказнасці за падтрыманне чысціні і парадку ў доме і двары.

Гэтую звалку на вонкавай пляцоўцы смеццеправода ўтварылі самі жыхары, лянуючыся аднесці буйныя непатрэбныя рэчы ў смеццевы кантэйнер, які знаходзіцца ў ста метрах ад пад'езда.

Дзесяць год, як засялілі дом. За гэты час, калі і разбіралася аднойчы звалка, то неўзабаве ўзнікала зноў.

Калі рамантаваліся хісткія ўваходныя дзверы, то ўмомант зноў зляталі з завесаў. А пафарбаваць нанова шматпакутныя сцэны пад'езда наогул спробы не было.

Спрабавалі, праўда, аднойчы выходзіць на суботнік і садзіць у двары маладыя дрэўцы. Але і тут не пашанцавала: вясной ледзь зазелянелі з усіх пасадак толькі некалькі кволых чаранкоў.



*Каб не хадзіць далёка, жыхары дома зрабілі звалку ва ўласным пад'ездзе*

***А.Турко***



# Па чым "сумуе" капялюш?

*Паняцце "перадсвяточны гандаль" яшчэ не знікла з ужытку сферы дзяржаўнага гандлю, але і былога яго размаху не назіраецца даўно. Як і раней, гандлёвыя ўстановы рыхтуюцца да свят.*

Ва універмаг "Веста", напрыклад, да 8 Сакавіка былі завезены новыя тавары, у кожным аддзеле паклапаціліся аб падарунначным іх афармленні. А пасля (так і хочацца ўжыць тут выраз з казачнага народнага фальклору) сталі прадаўцы пакупнікоў чакаць. Чакалі-чакалі, але так і не дачакаліся прыкметных чэргаў да кас.

Сказаць, што вінаватыя ў гэтым самі гандляры, – язык не павернецца. І магазін новы, светлы да прасторны, і тавараў нядрэнны выбар, і выкладзены яны зручна для пакупніка. Шмат чаго можна купіць з задавальненнем для сябе ў новым магазіне. Іншая справа, што патрэбна мець у кішэні грошы. Толькі ж цэны, як гаворыць мая знаёмая, так і б'юцца токам. Асабліва цяпер, калі з 1 лютага гандлю Менскай вобласці быў прыпаднесены "перадсвяточны падарунак" у выглядзе распараджэння аб увядзенні 5-працэнтнага падатку з прадажаў з мэтай папаўнення мясцовага бюджэту.

Вядома, не спадабаўся гэты "падарунак" і пакупнікам. Яны хутка суаднеслі цэны ў дзяржаўным гандлі з рыначнымі і не пажадалі актыўна папаўняць мясцовы бюджэт.

Вось і атрымалася так, што "сумуюць" напярэдадні 8-га Сакавіка жаночыя капелюшы. Сукенкам у аддзеле жаночага адзення толькі і застаецца, што падбадзёрыць адна другую "сяброўскім рукавом". Толькі прадаўцу аддзела сувеніраў Ганне Ластоўскай, як бы марудна ні ішоў гандаль, сумаваць не прыходзіцца. Яна лічыць, што тавар патэнцыяльнаму пакупніку належыць паказваць тварам.

З наступленнем лепшага надвор'я (літаральна ўжо ў сакавіку) універмаг "Веста" разлічвае зацікавіць пакупнікоў актыўнымі метадамі гандлю. На плошчы перад магазінам у бліжэйшы час будзе разгорнуты пастаянна дзеючы кірмаш з шырокай прапановай тавараў. А да 900-гадовага юбілею горада плануецца адкрыццё другой чаргі гандлёвага комплексу "Веста". Гэта будзе кафэ і кандытарскі цэх. Цяпер у крыле памяшкання, што размешчана бліжэй да кінатэатра "Кастрычнік", ідуць падрыхтоўчыя работы, закупляецца і ўстанаўліваецца абсталяванне.

Такім чынам, застаецца пажадаць кіраўнікам і работнікам універмага поспехаў, а пакупнікам – паболей грошай у кішэнях!

***А.Турко***

# Далёкі блізкі Берлін

*Адзінаццаць год таму гістарычны момант разбурэння берлінскай сцяны стаў сімвалам яднання не толькі адной штучна раздзеленай нацыі, але і знакам наступлення новай эры ў збліжэнні Захаду і Усходу. Цяпер у сталіцы адзінай Германіі аб былым процістаянні дзвюх армій і двух светаў сведчаць толькі два мемарыяльныя кантрольныя пасты на Фрыдрыхштрасэ – савецкі і амерыканскі.*





Панарама Берліна (зверху)
Sony-цэнтр на Патстдамер-плац (справа)
Так выглядае Рэйхстаг (знізу)

Так, юрыдычна і палітычна Германія цяпер адзіная. Але нават даволі павярхоўнага пабочнага позірку дастаткова для таго, каб зрабіць выснову, што фактычна Германій усё ж дзве. Гэта і пасля адзінаццаці гадоў пераарыентацыі эканомікі ГДР і каласальных фінансавых уліванняў у развіццё земляў. Жывучымі прыкметамі сацыялізму засталіся не толькі сяк-так "залатаны" асфальт на ўскраінных вуліцах усходняга Берліна ды зусім "па-нашаму" распісаныя падлеткамі абшарпаныя сценкі паўпадвалаў, але і спыненыя, ды так і не адроджаныя прамысловыя прадпрыемствы ў невялікіх гарадах у ваколіцах Берліна. Імёны гэтых гарадоў знаёмы і нашаму славянскаму слыху па фільмах і кнігах аб вайне.

Калі ж спытаць ў паўнапраўнага прадстаўніка эпохі нямецкага сацыялізму – карэннага ўсходняга берлінца першага пасляваеннага года нараджэння – аб тым, колькі яшчэ спатрэбіцца часу для таго, каб Германія сапраўды стала адзінай у сацыяльна-эканамічным плане, то адказ будзе шакіруючым: гадоў сорак і ніяк не менш… Вось якая рэальная розніца паміж двума светамі і двума ладамі жыцця!

І сапраўды, аб якім рэальным адзінстве нацыі можа ісці гаворка, калі заходні прафесар біялогіі атрымлівае каля 4000 еўра пенсіі, а ўсходні вучоны той кваліфікацыі – толькі паўтары тысячы! Калі беспрацоўе ва ўсходніх землях шырыцца і пагражае сур'ёзным сацыяльным напружаннем. Калі параўнанне ва ўзроўні жыцця паміж Захадам і Усходам па-ранейшаму на карысць першага. Але ж, тым не менш, не так і проста сёння адшукаць немца – як усходняга, так і заходняга, – які б быў катэгарычна незадаволеным аб'яднаннем краіны.

Як бы там ні было, а Берлін цяпер – таксама адзіны. Ад Тэльман-парка можна праехаць на знакамітую Пастдамер-плац, дзе знаходзіцца каласальны гмах Sony-цэнтра – агульнапрызнанага сімвала тэхнагеннай Заходняй Германіі. Можна свабодна праехаць, і не толькі для таго, каб уразіцца велічным Sony-цэнтрам, але і някідкай прыгажосцю берлінскіх вуліц, на якіх так арганічна суіснуе новая і старая архітэктура, на якіх панує размераны, няспешны парадак цывілізаванага і ў многіх адносінах забяспечанага жыцця людзей.

Плошча насупраць Рэйхстага цяпер уяўляе сабой будаўнічую пляцоўку: узводзіцца новы комплекс дзяржаўных кіруючых устаноў і грамадскіх цэнтраў. Нягледзячы на зімовы, пранізлівы вецер, да Рэйхстага, над якім узнёсся цяпер новы шкляны купал, стаіць доўгая чарга турыстаў. Але па ўсім ужо бачна, што пасля заканчэння распачатага будаўніцтва Рэйхстаг будзе выглядаць калі не сціплай, то даволі звычайнай гістарычнай пабудовай. Немцы, якія будуюць новую адзіную Германію, не разлічваюць, мабыць, доўга памятаць тое са свайго "старога", што хацелася б забыць.

*А.Турко*

# Узаеміны дзяцей і дарослых

*Самая хвалюючая для бацькоў праблема – метады выхавання дзяцей. Як пераадолець ляноту школьніка? Як змагацца з грубасцю падлетка? Як прывучыць да акуратнасці, падцягнутасці, сабранасці? Калі мы задаём сабе пытанні, як дамагчыся, як прывучыць, як пераадолець, як прымусіць, то гэта і ёсць пытанні метадаў выхавання.*

У распараджэнні бацькоў шмат сродкаў выхавання. Сярод іх такія, як уздзеянне словам, перакананнем, арганізацыя жыцця і дзейнасці дзяцей, стварэнне выхаваўчай сітуацыі, адабрэнне і асуджэнне. Якія шляхі, правілы прымянення кожнага з іх?

Выхаванне – гэта форма ўзаемін паміж дзецьмі і дарослымі, сродкам жа з'яўляецца слова. Яно можа быць асуджальным, суровым, халодным, заахвочвальным, ласкавым, падбадзёрваючым, іранічным, насмешлівым, саркастычным. Слова валодае велізарнай сілай, якую мы часта недаацэньваем.

Канчатковыя вынікі выхавання заўсёды праяўляюцца ў паводзінах, учынках, дзейнасці чалавека. Гэтым жа вымяраецца і ўзровень выхаванасці чалавека. І каб тое, да чаго мы заклікаем дзяцей, рэалізаваліся ў штодзённым жыцці, вучобе, ўзаемінах, патрэбны практыкаванні ў добрых паводзінах. Дзіцё не вырасце добрым, чулым, уважлівым, міласэрным, калі мы, даючы ласункі, не прапануем яму падзяліцца з мамай, братам, сябрам, бабуляй.

Якімі мы становімся бацькамі, у значнай ступені залежыць ад таго, што мы бачылі, перажылі, зразумелі ў паводзінах уласных бацькоў. Тут можа аказаць уздзеянне ўсё! Якімі былі нашы бацькі, калі радаваліся, калі сумавалі, калі злаваліся, калі хвалілі і каралі, як вырашалі канфлікты, якімі былі сямейныя спрэчкі, як выражалі сваю прыхільнасць, сваю няміласць. Уся гэта складаная гама дзіцячых уражанняў ад паводзін бацькоў, часта незалежна ад нашага жадання і свядомасці, выяўляецца ў той час, калі мы самі становімся бацькамі. Эмоцыі дзяцей, выкліканыя ўзаемінамі з бацькамі, валодаюць вялікай мадэлюючай сілай. Нешта з гэтых уражанняў застаецца з намі назаўсёды.

Можна з упэўненасцю сказаць, што рэзервы выхавання невычэрпныя. Іх трэба шукаць, творча пераасэнсоўваць, выкарыстоўваць з улікам спецыфікі сям'і, узросту дзіцяці, умоў жыцця. Гатовых рэцэптаў правільных учынкаў (у дадзеным выпадку або сітуацыі) няма. Вызначыць свой выхаваўчы патэнцыял ці формы ўзаемін з дзецьмі, прыёмы выхаваўчага ўздзеяння бацькі павінны самі ў залежнасці ад канкрэтнай сітуацыі. Трэба толькі любіць сваё дзіця, разумець яго, і памылак у выхаванні не будзе.

*С.Смольская*

# Жыць патрэбна будучым

Барысаўскі цэнтр тэхнічнай творчасці навучэнцаў мае нямала поспехаў у мінулым. І самы галоўны поспех у тым, што тут развіліся і атрымалі крылы многія юныя таленты.

Таленты ёсць і цяпер, але бракуе грошай для іх далейшага развіцця. Вядома, што сэнс усялякай творчасці – гэта спаборніцтвы, конкурсы, перамогі.

А сёлета вось у рэспубліканскім конкурсе па судамадэлізму барысаўскія ўмельцы не ўдзельнічалі, бо не было грошай для забяспячэння гэтага ўдзелу.

З 1-га па 3 сакавіка ў Менску праходзіць рэспубліканскі конкурс па хуткай радыётэлеграфіі. Гарадская арганізацыя ДАСААФ выдзеліла для гэтай мэты грошы. Толькі іх будзе недастаткова, каб адправіць на спаборніцтвы каманду ў поўным саставе. Таму замест дзевяці ўдзельнікаў паедуць толькі трое. А паколькі каманда не поўная, то спадзявацца на высокі вынік наўрад ці варта. І вельмі шкада. Раней на рэспубліканскіх спаборніцтвах па тэхнічнай творчасці розных напрамкаў барысаўцы ўваходзілі ў тройку прызёраў.

*А.Турко*

# Сапраўдным сябрам адлегласць не перашкода

Усе мы ведаем прыказку, якая сведчыць, што сто сяброў заўсёды лепш за сто рублёў. Сапраўды, шчаслівы той, каго любяць, да каго імкнуцца ў госці, у каго шмат сяброў.

Сёння я хацела б расказаць аб прыкладзе сапраўднага сяброўства ў нашым горадзе.

У далёкім 1990 годзе ў СШ № 15 Барысава прыйшоў ліст з туманнага Альбіёна. Школа Лацімер, што знаходзіцца ў паўночным Лондане, прапаноўвала абменьвацца групамі вучняў. Англічан цікавіла рускамоўная практыка. Гэтая школа, якая носіць імя свайго заснавальніка, вельмі старая. Заняткі пачаліся ў ёй яшчэ ў 17 стагоддзі. Цяпер жа тут налічваецца 1300 вучняў і працуе 85 настаўнікаў.



У музеі народных промыслаў і тэхналогій у в. Дудуткі

Прапанова знайшла разуменне ў СШ № 15 з той нагоды, што тут паглыблена вывучаюць ангельскую мову. І ўжо ў лютым 1991 года першая група школьнікаў з Англіі пад кіраўніцтвам настаўнікаў Пітэра Ніла і Луіз Мельцэр ступіла на барысаўскую зямлю. Госці жылі ў сем'ях сваіх сяброў. Шмат што іх у нас здзівіла: снег, мароз і, вядома ж, наша гасціннасць.

Дзесяць дзён праляцелі імгненнем. Калі ўсе ж расстанне надышло, яно сапраўды было "са слязамі на вачах".

Але ўжо ў сакавіку барысаўскія школьнікі са сваім дырэктарам Фурсавым А.Д. і намеснікам дырэктара Капейкінай Р.М. нанеслі візіт у Лондан. Урокі ў школе Лацімер, экскурсіі на радзіму У.Шэкспіра ў горад Стратфорд, універсітэцкі Кембрыдж, наведванне Парламента ды іншае – усе гэта накінула незабыўны след у памяці барысаўцаў.

З гэтага часу абмен вучняў ды настаўнікаў адбываўся кожны год. Але з 1999 года ён праходзіць раз у тры гады з абставін, што не залежаць ад сяброў.

Ды ўсё ж менавіта 2002 год стаў чарговым этапам сяброўскай сустрэчы. 13 лютага выкладчыкі Пітэр Ніл і Сара Андэмэн прывезлі ў Барысаў 20 сваіх вучняў.

Гульня "Каханне з першага погляду" на сяброўскім вечары ў дзень усіх закаханых 14 лютага скончылася выбарам ідэальнай пары Люды Мікуліч і Мартына Алекса. А яшчэ на гэтым вечары гучалі песні многіх народаў свету.

Школьнікі з Лацімера вельмі ўдзячны за цікавую экскурсію па Барысаву і Мінску настаўніцы Цікцінскай Л.А.

А ў музей народных промыслаў і тэхналогій у в. Дудуткі ангельскія вучні пазнаёміліся са старажытным беларускім побытам. Тут яны нават спрабавалі выпякаць наш хлеб, збіваць масла ды разам з кавалём выкавалі падкову.

Тыдзень праляцеў як сон. На чарзе наведванне Лондана нашымі вучнямі. Упэўнена: цудоўнае сяброўства будзе працягвацца.

Напрыканцы хацелася б падзякаваць за матэрыяльную падтрымку мерапрыемстваў Савіну А.Р., Пухавому А.А., Куляшову А.М., Гайкаву В.І., Фокіну А.В., турагенцтву "Фамальгаўт".

*А.Карасёва*


Вясна. Усё навокал застыла ў чаканні абуджэння прыроды.

# Вясна

Вясна - пераходны сезон паміж зімой і летам. У Паўночным паўшар'і гэта перыяд ад вясенняга раўнадзенства да летняга сонцастаяння (22 чэрвеня), а ў Паўднёвым паўшар'і – паміж 25 верасня і 22 снежня.

Стан прыроды характарызуецца хуткім павышэннем тэмпературы паветра ў гадавым працэсе. У гэты час пад уплывам цяпла снег павольна сыходзіць, расталыя воды выклікаюць паводкі, на ўсіх вялікіх рэках пачынаецца крыгалом. Вада залівае прыбярэжныя лугі і хмызнякі. Надвор'е няўстойлівае, часта змяняецца. Бываюць пахаладанні да -20°С, звычайна замаразкі спыняюцца ў пачатку траўня, але магчымы нават і летам. Вясна падзяляецца на падсезоны. 1-ы – ранняя вясна, ці снегараставанне, пачынаецца з руху соку ў бярозы барадаўчатай.

Значна павялічваецца дзень, канчаткова растае снег, прылятаюць гракі, чайкі, шпакі, жаваранкі. З'яўляюцца першыя кветкі падбелу, крыху пазней цвітуць ружовыя і сінія медуніцы, чубаткі, кураслеп. Зацвітае вольха, ляшчына, на палях зелянеюць азімыя, паяўляюцца першыя вясеннія матылі. Канец сезона супадае з набуханнем пупышак каліны. Агульная працягласць яго ў наваколлі Менска з 28 сакавіка да 14 красавіка. 2-і падсезон – ажыўленне вясны, працягваецца да 1 траўня, канец прыкладна супадае з пачаткам цвіцення бярозы барадаўчатай. Распускаюцца пупышкі ў вішні, яблыні, клёна, зацвітае таполя серабрыстая, вяз, паяўляюцца многія насякомыя, вяртаюцца з выраю пералётныя птушкі, пачынаецца нераст акунёў, шчупакоў, яршоў і іншых рыб; сеюць раннія яравыя культуры. 3-і падсезон – разгар вясны, цягнецца ўвесь травень, уключаючы першыя дні чэрвеня. Пачатак супадае са спыненнем замаразкаў у паветры, а феналагічны канец перыяду – з зацвітаннем каліны і аблісценнем бярозы. Ад гарачага сонца расліннасць хутка развіваецца: каласяцца азімыя, ідзе пасадка бульбы; цвітуць дрэвы і кусты, ягаднікі, лугавыя травы.

*М.Пучыла*

# Сакавік

Сакавік - першы месяц вясны. Пачынаецца рух сокаў у дрэвах – адсюль і яго назва. Руская назва март (як і ў большасці еўрапейскіх моў) запазычана і пахо-дзіць ад лацінскага імя бога вайны Марса. У сакавіку Сонца праходзіць праз пункт веснавога раўнадзенства, яго вышыня над гарызонтам на сярэдзіне месяца 35,9°. Дзень павялічваецца амаль на 5 гадзін. Сярэдняя тэмпература паветра складае ад 1° на паўднёвым захадзе да -4°С на паўночным усходзе. Абсалютны мінімум -37°С за многія гадыназіранняў быў адзначаны ў вёсцы Суша Клічаўскага раёна (1964 год). Парушаецца ўстойлівае снегавае покрыва і канчаткова сходзіць праз 10-15 дзён. Бягуць шматлікія ручаі, расталыя воды выклікаюць бурнае разводдзе на рэках. У сярэдзіне сакавіка вызваляецца ад лёду Нёман, у канцы – Дняпро, Бярэзіна і Прыпяць. Пасля раставання снегу праграюцца глеба і ніжні слой паветра. Звычайна ў гэтым месяцы сярэднясутачная тэмпература паветра пераходзіць праз 0°С у бок павышэння. Адносная вільготнасць паветра складае 76-82 адсоткаў; колькасць вільготных дзён 8 – 13. Атмасферныя ападкі на большай частцы тэрыторыі ў межах 30 – 40 міліметраў, у асобныя гады выпадае 50 – 100 міліметраў і болей (Наваградак – 166, 1958 год), а ў іншыя – усяго некалькі міліметраў (Пінск – 1, 1960 год).

**Прыйшоў марац - адмарозіў палец.**

**Як у сакавіку снег задувае, будзе ўраджай на агародніну і ярыну.**

**Рана пачне раставаць – доўга не растане.**

**Вецер снег з'ядае.**

**Сакавіцкая вада гаючая, ёй мыюцца і ад вяснушак.**

*М.Пучыла*


Індыкі гуляюць - куры адпачываюць

# Рака Бобр

Бобр з'яўляецца другой ракой па вадастоку на Барысаўшчыне. Яе даўжыня 124 кіламетры, плошча вадазбору – 2190 квадратных кіламетраў. Сярэднегадавы расход вады ў вусці 14,9 кубічных метраў у секунду. Перапад высот ад месца пачатку да вусця складае 69,4 метры, сярэдні нахіл воднай паверхні – 0,56 адсоткаў.

Упадае Бобр у Бярэзіну каля Чэрнеўкі. У вусці шырыня ракі каля 40 метраў, пойма – да 300 – 500 метраў. У межах Барысаўскага раёна яна працякае каля Вяляцічаў, Клыпенкі і Лаўніцы.

Замярзае рака ў сярэдзіне снежня. Крыгалом на ёй бывае ў сярэдзіне сакавіка.

З даўніх часоў па рацэ Бобр сплаўляўся лес. Выкарыстоўвалася нізоўе ракі і для суднаходства.

Працякае Бобр пераважна праз лясы. Па яго берагах, якія нярэдка бываюць абрывістымі, часта можна напаткаць вельмі маляўнічыя краявіды. Некранутасці тамтэйшай прыроды спрыяе і тое, што абапал Бабра мала населеных пунктаў. Таму і вада ў рацэ чыстая. Асабліва добра гэта бачна пры ўпадзенні яго ў Бярэзіну, дзе чыстая і празрыстая вада Бабра змешваецца з мутнымі і брудными водамі Бярэзіны. Не дзіва, што па сённяшні час па берагах Бабра можна сустрэць хаткі баброў - жывёлін, якія і далі назву рацэ.

# Лясны кот



У адрозненне ад жывёл і птушак, пра якіх мы ўжо расказалі ў папярэдніх публікацыях, кот лясны сярэднееўрапейскі ў Чырвонай кнізе Беларусі залічаны ў спіс зніклых відаў. Барысаўскі раён быў тым месцам, дзе ў 1927 годзе лясны кот быў сустрэты ў апошні раз.

Між тым у XIX стагоддзі менавіта Менская губерня лічылася цэнтрам распаўсюджання гэтага звера ў заходніх раёнах Расейскай імперыі. Улюбёныя месцы пражывання ляснога ката: густыя змешаныя лясы і глухія пойменныя трыснягова-кустовыя зараснікі. І, мабыць, менавіта на Барысаўшчыне з яе багатымі лясамі кату было прывольна. Але гэта ўжо ў мінулым.

Пасля 1927 года лясны кот у Беларусі не сустракаўся, хаця было нямала звестак аб сустрэчы з ім ці здабычы. Усе такія паведамленні аказваліся недакладнымі. Лясным катом лічылі здзічэлых хатніх кошак. У дадзены час лясны кот у невялікай колькасці (каля 500 асоб) жыве ў Заходняй Украіне і Малдове, а таксама на тэрыторыях некаторых еўрапейскіх краін.

Лясны кот падобны на хатніх яго сuродзічаў, але больш буйны. Даўжыня яго цела дасягае 75 см, а разам з хвастом – 110 см. Важыць лясная кіска да 7 кілаграмаў. Афарбоўка густой і доўгай поўсці рудавата-шэрая. Упоперак спіны і хваста ідуць цёмныя палосы. Сляды дзікага ката такія ж, як у хатняга, толькі большыя.

Удзень кот хаваецца ў дуплах дрэў, у густых зарасніках, у норах, пакінутых лісой, барсуком, а ноччу выходзіць паляваць на мышэй, палёвак, птушак. Як і большасць кашачых, жыве ў адзіноцтве. Пару ставарае толькі ў шлюбны перыяд. Потым пара распадаецца, а кацянят (2-6 асоб) самка гадуе адна.

Нельга не пашкадаваць аб знікненні з нашых лясоў гэтай цікавай істоты. Лясны кот чула адрэагаваў на актыўную гаспадарчую дзейнасць чалавека яшчэ на пачатку мінулага стагоддзя. Праведзеная ў апошнія дзесяцігоддзі меліярацыя, каторая знішчыла вялікія плошчы трысняговых зараснікаў, актыўная хімізацыя сельскай гаспадаркі, агульнае змяншэнне плошчы лясоў не дазваляюць спадзявацца на пашырэнне ў блізкім часе арэалу пражывання ляснога ката да былых межаў, г.зн. з'яўлення яго ў Барысаўскім раёне. Але хочацца верыць, што калі-небудзь пашчасціць, калі не нам, то нашым унукам, сустрэць сапраўднага ляснога ката на абшарах Барысаўшчыны.

*Е.Гpаковіч*

# Пра тэктоніку, землетрасенні, разломы і іншае...

*Перш чым развітацца са старажытнай геалагічнай гісторыяй Барысаўшчыны і перайсці да размовы пра апошні антрапагенавы перыяд яе гісторыі, варта пазнаёміцца з тэктанічнай пабудовай нашай тэрыторыі, якая складалася на працягу ўсяго існавання планеты.*

Перш за ўсё зазначым, што тэктоніка – гэта геалагічная навука, якая вывучае структуру, розныя дэфармацыі і перамяшчэнні цвёрдай абалонкі Зямлі. Тэктанічная пабудова раёна вызначае ў значнай ступені рэльеф, які склаўся на дадзеным участку зямлі, ад яе залежаць наяўнасць на дадзеным участку зямлі землетрасенняў і іншых геалагічных падзей.

Уся паверхня зямнога шара падзяляецца на рухомыя ўчасткі зямной кары (геасінкліналі) і адносна ўстойлівыя, раўнінныя ўчасткі (платформы). Але просім звярнуць увагу, што ў характарыстыцы платформаў ужыта слова "адносна". Справа ў тым, што тэктанічная дзейнасць на платформах цячэ безупынна, толькі больш павольна, чым у геасінклінальных раёнах, і спакой зямной кары на платформе сапраўды толькі адносны.

Тэрыторыя Беларусі цалкам размешчана на адной са старажытнейшых структур зямной кары – Усходнееўрапейскай платформе. Фарміраванне крышталічнага падмурка гэтай платформы адбылося ў археі – раннім пратэразоі. У больш позняя часы падмурак перакрываўся пародамі асадкавага покрыва. Прыкладам тыповага разрэзу платформы з'яўляецца і геалагічны разрэз наваколляў Барысава (гл. "Гоман Барысаўшчыны" №12 за 2001 г.).

Больш-менш устойлівы платформенны рэжым тэрыторыі не выключае складаны характар яе пабудовы. Так крышталічны падмурак Беларусі складаецца з найбольш ранніх (архейскіх) граніта-гнейсавых купалоў, якія раздзяляюцца лінейнымі складкавымі сістэмамі геасінклінальных этапаў развіцця (пратэразойскага часу). Пабудова гэтая ўскладняецца наяўнасцю цэлай сістэмы разломаў падмурка, якія дробяць яго на асобныя блокі. Такім чынам крышталічны падмурак уяўляе сабой даволі неаднародная цела, склад якога высвятляецца пры дапамозе геафізічных даследаванняў і свідравання.

Пагляджэўшы на схему пабудовы крышталічнага падмурка ў наваколлях Барысава, мы бачым, што Барысаўшчына ляжыць на Менскім гранулітавым блоку, граніта-гнейсавым масіве Цэнтральна-Беларускай структурнай зоны і Барысаўскім гранулітавым блоку. Яны размежаваны суперрэгіянальнымі глыбіннымі Менскім і Барысаўскім разломамі. Акрамя таго, вызначаецца некалькі лакальных разломаў падмурка. Паверхня падмурка мае агульны нахіл у паўднёва-ўсходнім напрамку.

На падмурку ляжаць больш познія (верхнепратэразойскія і палеазойскія) пароды, якія таксама маюць сваю сістэму паднятцяў і ўпадзін, падзеленых на больш дробныя часткі разломамі і складкамі. Тэрыторыя Барысаўшчыны месціцца на так званай Прыаршанскай манакліналі, а кажучы прасцей, на схіле паміж Беларускай антэклізай (паднятцем) і Аршанскай упадзінай (мал). Гэтая структура змяшчае ў сабе сістэму дробных паднятцяў (брахіантыкліналяў), якія цягнуцца з поўначы на поўдзень, а таксама з паўднёвага захаду на паўночны ўсход. Пабудова гэтых паднятцяў ускладняецца цэлым шэрагам тэктанічных разрываў.

На ўвесь гэты складаны "пірог" ляглі антрапагенавыя ледавіковыя адклады, якія пакінулі ледавікі, якія прыходзілі на зямлю Барысаўшчыны пяць разоў. У гэтых асадках, якія складаюцца з пяску, гліны, галькі, жвіру, прамылі нашы рэкі свае рэчышчы, тут сфармаваліся азёры, узвышшы, яры і іншыя формы рэльефу.

Але нельга не заўважыць, што склад зямной кары пад антрапагенавымі ледавіковымі адкладамі таксама аказвае ўплыў на пабудову рэльефу. Адзначым, у прыватнасці, што рэчышча Бярэзіны, напрамак яе сцёку ў агульных рысах супадае з напрамкам падзення Прыаршанскай манакліналі і з нахілам старажытнага крышталічнага падмурка.




Тэктанічная актыўнасць праяўляецца і на сучасным этапе развіцця зямной кары. Спецыяльныя інструментальныя назіранні паказваюць, што асобныя раёны Беларусі ўзнімаюцца, а іншыя апускаюцца з хуткасцю некалькі міліметраў у год. Так, тэрыторыя Барысаўшчыны за год апускаецца прыблізна на 1 мм, а, напрыклад, у раёне Пінска назіраецца паднятцце паверхні з хуткасцю 8 мм у год. Але такія рухі не азначаюць абавязковага ўтварэння на беларускай зямлі праз мільёны год высокіх гор ці глыбокіх прагінаў. Справа ў тым, што для платформ характэрны вагальныя рухі: узняцці праз пэўны час змяняюцца апусканнямі.

Праяўленнямі тэктанічнай актыўнасці зямной кары з'яўляюцца і землетрасенні, якія на тэрыторыі Беларусі маюць дзве асноўныя крыніцы: 1) рухі па разломах, падзяляючых блокі зямной кары; 2) водгукі сейсмічных працэсаў у прылягаючых абласцях маладога гораўтварэння, перш за ўсё ў Карпатах. Акрамя таго, у раёне Салігорска назіраюцца рухі зямной паверхні ў выніку абвалаў шахтных выпрацовак, якія ўтварыліся пры здабычы каменнай солі. Інтэнсіўнасць такіх лакальных штуршкоў дасягае 5 балаў. Для вывучэння землетрасенняў непадалёк ад Барысава, у мястэчку Плешчаніцы працуе з 60-х гадоў сейсмічная станцыя "Менск".

У пачатку 1909 г. газета "Наша ніва" пісала: "Ашмянскі павет. 17 снежня, яшчэ было цёмна, жонку арандатара разбудзіў страшэнны гром. Зазвінела шкло ў воknах. І здалося гаспадыні, што падае дом. Але ўсё сціхла, хутка прыбег і арандатар, што быў пры скаціне ў хляве, і расказаў, што і ён таксама чуў гул, быццам гром праляцеў па небе, зямля задрыжала, і жывёлы падалі на калені. Выбегшы з хлява, ён убачыў быццам роў глыбокі, які цягнуўся, мусіць, з вярсту з поўначы на паўночны ўсход". Памянёнае ў газеце землетрасенне мела, па ацэнках спецыялістаў, інтэнсіўнасць не менш за 7 балаў па дванаццацібальнай шкале.

Ёсць звесткі, што ў канцы снежня 1887 года адбылося землетрасенне, эпіцэнтр якога знаходзіўся ў раёне Барысава на глыбіні каля 10 км. Яно мела інтэнсіўнасць у 4-6 балаў. У XX стагоддзі барысаўцы мелі магчымасць адчуць штуршкі зямной паверхні ў красавіку 1977г. (інтэнсіўнасцю 4-5 балаў), 31 жніўня 1986 г. (3-4 бала) і ў траўні 1990г. (3-4 бала). Усе яны былі водгукамі землетрасенняў у Карпатах.

Згодна сучаснай схемы сейсмічнага раяніравання на тэрыторыі нашага раёна можна чакаць землетрасенні інтэнсіўнасцю да 6-7 балаў.

У апошняе дзесяцігоддзе тэктанічнай пабудовай таго ці іншага раёна пачалі цікавіцца не толькі вузкія спецыялісты, але і шырокая грамадскасць, перадусім, у сувязі з існаваўшымі праектамі будаўніцтва атамных станцый. У прыватнасці, у свой час на ўсход ад Барысава ў раёне возера Сялява планавалася будаўніцтва АЭС. Адна з прычын спынення распрацоўкі гэтага праекта – наяўнасць у раёне возера глыбіннага Чашніцкага разлому, які, як і памянёныя вышэй Менскі і Барысаўскі разломы, цягнецца далёка ў глыбіню Зямлі. Зразумела, што прысутнасць разлому вызначае пэўную няўстойлівасць зямной кары ў раёне, г.зн., што будаўніцтва атамнай станцыі на такім месцы магло б прывесці ў будучым да трагічных наступстваў.

**Т.Шміт**

# Што елі жыхары Ухалоды на пачатку XX стагоддзя

*Наша газета працягвае друкаваць цыкл краязнаўчых матэрыялаў І.Клімковіча, якія ён напісаў па сваіх успамінах некалькі дзесяцігоддзяў таму. Сёння расповед пойдзе аб тым, чым сілкаваліся жыхары Ухалоды сто год таму.*

У дзяцінстве большасць ухалодцаў перажывала голад. Не ад добрага жыцця аддалі ў парафікі майго брата Івана.

Выратоўвала бульба, яе прымешвалі да цеста і пяклі хлеб. Прымешвалі таксама аўсяную, ячную, грэцкую муку.

Звычайная ежа - бульба, квашаная капуста, рэшткі сала. Алей – у абмежаванай колькасці. Поліўка з сушанымі грыбамі. Талакно.

Цура ці мурцоўка – падсоленая вада з накрышаным хлебам, запраўленая алеем.

Журавіны з падсаладжанай сахарынам вадой з хлебам – гэта таксама была ежа.

Мак цёрлі ў макацёрцы, дадавалі падсаладжанай вады – атрымлівалася нешта накшталт салодкай смятаны. У яе з агульнай міскі макалі праснаком.

Частай ежай былі накрышаныя буракі з якой - небудзь запраўкай. Кіслую капусту запраўлялі ў рэдкіх выпадках таранамі.

Канапляная семя таўклі ў ступе, прыпраўлялі цыбуляй і рабілі варэнікі – гэта была раскоша.

Саладуха – гэта таксама ежа – нешта падобнае на густы салодкі перабрадзіўшы квас.

Яшчэ была зацірка – у вар сыпалі расцёртае да крошак цеста (прэснае) і запраўлялі алеем ці салам.

Быў бы хлеб і была б бульба – жыць яшчэ можна было.

У нашай гаспадарцы былі куры, былі і яйкі. Але курыцу рэзалі толькі для хворых, а яешню рабілі толькі для гасцей. Куры і яйкі – гэта была валюта для гаспадаркі. Дзякуючы продажу курэй і яек, набываліся такія неабходныя ў гаспадарцы тавары, як соль, запалкі, газа і інш. Таксама неслі на продаж малако, зялёную цыбулю, ягады, грыбы, маладую моркву, палявое шчаўе – добра, што базар барысаўскі быў побач. Гэтага не маглі дазваліць сабе жыхары больш далёкіх вёсак.

Белы хлеб (булка) быў рэдкасцю як для дзяцей, так і для дарослых. З рынка везлі дзецям гасцінцы – баранкі, кухоны.

Памятаю выпадак з дзяцінства, як наш кватарант – прыказчык лесапрамыслоўца - пачаставаў нас булкаю. Я сваю долю, каб працягнуць асалоду, еў з чорным хатнім хлебам.

Раніцай усе разам абедалі (альбо снедалі), апоўдні – палуднічалі (хто дома, хто на працы), вечарам – вячэралі.

Перад абедам, устаўшы з ложка, усе абавязкова ўмываліся (без мыла).

Ніхто не сядаў за стол,не памаліўшыся Богу. Маліліся ля стала,

*(Заканчэнне на стар. 11)*

# Тутэйшы кнігазбор

*На паліцах мясцовых кнігарняў нядаўна з'явіўся 13 том "Беларускай энцыклапедыі".*

У ім, як і ў ранейшых, нямала звестак пра нашу Барысаўшчыну. У прыватнасці, тут ёсць некалькі артыкулаў пра Герояў Савецкага Саюза – нашых землякоў: Рабцава М.Я. (нарадзіўся ў Барысаве), Рыжова У.Р. (нарадзіўся ў Майсееўшчыне), а таксама Рака П.М. ( у складзе легендарнага танкавага экіпажа вызваляў наш горад). Асобны артыкул прысвечаны Радкевічу І.А. (нарадзіўся ў Барысаве), генерал-лейтэнанту, удзельніку грамадзянскай і другой сусветнай войнаў.

У энцыклапедыі друкуюцца артыкулы, прысвечаныя нашым землякам – вучоным: Пяткевічу М.Я. (нарадзіўся ў Юзафове) – спецыялісту ў галіне судовай медыцыны, доктару медыцынскіх навук, Русецкаму А.М. (нарадзіўся ў Барысаве) – спецыялісту ў галіне электроннага машынабудавання, доктару тэхнічных навук, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

У энцыклапедыі нямала звестак пра нашых землякоў – дзеячоў літаратуры і мастацтва. Так, Анікейчык А. (нарадзіўся ў Барысаве) ўзгадваецца як адзін з аўтараў мемарыяльнага комплекса "Прарыў" ва Ушацкім раёне, Мазынскі В. (нарадзіўся ў вёсцы Вялікі Стахаў) узгадваецца ў артыкуле "Рэжысёрскае мастацтва" як рэжысёр, які ў лепшых работах імкнецца ўзнавіць прынцыпы народнага тэатра з улікам сучасных тэатральных навацый., Гігевіч В. (нарадзіўся ў вёсцы Жыцькава) ўзгадваецца ў артыкулах "Проза", "Прыгодніцкая літаратура", "Раман" як адзін з буйнейшых празаікаў сучаснасці. Леаніду Рашкоўскаму (нарадзіўся ў Барысаве) прысвечаны артыкул - персаналія.

У артыкуле "Прамысловая архітэктура" прыводзяцца звесткі пра фабрыку "Папірус" і завод "Аўтагідраўзмацняльнік".

Пяру вядомага гісторыка – археолага Г.Штыхава належыць артыкул "Пэўльнік" пра курганны могільнік X - XIII стагоддзяў ля вёскі Пэўльнік Барысаўскага раёна.

Напаследак рэпліка – недаўменне. Услед за "Энцыклапедыяй гісторыі Беларусі" (том 6, кніга 1) і 13 том "Энцыклапедыі Беларусі" ў артыкуле "Раённыя падпольныя камітэты КП(б)Б" у пераліку апошніх чамусьці не ўзгадвае Барысаўскі.

**І.Белы**

# Роднасць і сваяцтва

*Адносіны паміж людзьмі, што заснаваны на паходжанні ад агульнага продка – гэта роднасць, а тыя, што ўзнікаюць у мужа і жонкі да іх родных - сваяцтва.*

У сучасных сямейных адносінах адрозніваюць роднасць па лініях: прамой (бацькі і дзеці, продкі і нашчадкі), бакавой (браты і сёстры, дзядзькі, цёткі і пляменнікі), узыходнай (ад нашчадкаў да продкаў - напрыклад, унук, сын, бацька, дзед), сыходнай (ад продкаў да нашчадкаў).

Беларускія назвы кроўнай роднасці па прамой лініі 1-й ступені – бацька (тата), маці (мама, матка), сын, дачка (пазашлюбных дзяцей называлі байстрюкамі); няпоўнай роднасці паміж мужам (жонкаю) і дзецьмі ад папярэдняга шлюбу жонкі (мужа) – айчым, мачаха, пасынак, падчарыца; усынаўлення – выхаванец, выхаванка (у гаворках – гадаванец, гадаванка, дольнік, дольніца); дзеці мачахі і айчыма лічыліся зводнымі братамі і сястрой. 2-й ступені – дзед, баба, унук, унучка. 3-й ступені – прадзед, прабаба, праўнук, праўнучка. 4-й ступені – прапрадзед, прапрабаба, прапраўнук, прапраўнучка.

Назвы сваяцтва: муж і жонка, у гаворках таксама стары (старая), дзед (баба), гаспадар (гаспадыня); да слова муж сінонімы мужык, чалавек, да слова жонка - маладзіца, дружына, жанчына і інш. Даччын муж – зяць; сынава жонка – нявестка. Мужавы бацькі – свёкар, свякроў (свякрухаў свекрыва), жончыны – цешча і цесць; мужаў брат - дзевер, сястра – залоўка (залвіца). Слова швагер выражае тры паняцці: сястрын муж, жончын брат, муж жончынай сястры, швагерка – жончына сястра. Братава жонка – братавая, братавыя паміж сабой – ятроўкі; дзядзькава жонка - дзядзіна (цётка). Бацькі мужа і жонкі адзін да аднаго – сваты, мацеры – сваццы (сваxі).

**М.Пучыла**



# Вялікая вуліца

*Яшчэ зусім нядаўна не толькі людзі сталага ўзросту, але й маладыя, збіраючыся прайсціся па галоўнай вуліцы горада, казалі: "Хадзем на Вялікую!". Прасторная і разам з тым утульная, зялёная, чыстая вуліца – як прыемна было прайсціся па ёй, вылезшы са сваіх пакручастых, брудных, калдобістых завулкаў. Ды і сёння збочце з праспекта Рэвалюцыі на вуліцу Чарняхоўскага, Чырванасцяжную ці Стаханаўскую, і вы адразу зразумееце, чаму праспект Рэвалюцыі (ён жа праспект Трубяцкога да кастрычніцкіх падзей) звазўся барысаўцамі Вялікай вуліцай.*

Гісторыя праспекта пачынаецца з моманту, калі ў Пецярбурзе было прынята рашэнне аб будаўніцтве ў нашых краях чыгункі. Яна павінна была прайсці ў трох кіламетрах ад тагачаснай мяжы горада па зямлі памешчыка Свіды. Да месца будучай станцыі з горада, які ў той час амаль цалкам месціўся на левым беразе Бярэзіны, можна было дабрацца па старому грунтоваму тракту, што вёў у мястэчка Бярэзіна.

У лістападзе 1871 г. па чыгунцы прайшоў першы цягнік. Да гэтага часу быў узведзены двухпавярховы драўляны будынак вакзала з шэрагам службовых станцыйных пабудоў. На плане, выкананым у 1872 годзе, будучы праспект - яшчэ проста дарога сярод лесу, вакол якой, акрамя вакзала і чыгуначнай платформы, бачым толькі цагляны заводзік і, бліжэй да горада, некалькі дробных будынкаў.

З'яўленне чыгункі паспрыяла ўзнікненню на правым беразе цэлага шэрагу прамысловых прадпрыемстваў, вакол якіх пачало будавацца жытло. Паступова ўзнікаў новы пасад з гандлёва-прамысловым ухілам. У 1875 годзе памешчык І.Х.Каладзееў на правым беразе Бярэзіны ставіць сабе маёнтак. У 1896-98 г.г. ён разам з памешчыкам Свідам уздоўж тракта будуе казармы для размяшчэння двух драгунскіх палкоў і драўляны гарадок для афіцэрскага саставу. Цагляныя казармы захаваліся да нашых дзён. У гады першай сусветнай вайны тут былі размешчаны шпіталь, у гады Айчыннай вайны – канцлагер для ваеннапалонных.

У 1900 годзе новы пасад на правым беразе пад назвай Нова-Барысаў уваходзіць у мяжу горада. Разам з развіццём новай часткі горада ідзе і развіццё праспекта, якому наканавана ў будучым стаць галоўнай вуліцай старажытнага Барысава. Ён спрамляецца, забрукоўваецца і атрымлівае імя менскага губернатара Трубяцкога.

Перад першай усясветнай вайной драўляны будынак станцыі заменены новым цагляным двухпавярховым будынкам. Прывакзальная плошча забрукавана і асветлена газава-калільнымі лямпамі. На ёй чакаюць пасажыраў пралёткі і нават адзін аўтобус, які курсуе па праспекту да старой часткі горада. З'яўленне аўтобуса выклікае незадаволенасць рамізнікаў, якія змагаюцца з канкурэнтам, раскідваючы па праспекту цвікі і іншыя рэжучыя прадметы. З пачаткам вайны аўтобус мабілізуюць на перавозку грузаў.

На левым баку праспекта ў двухпавярховым цагляным будынку размешчана гасцініца, крамы і кінатэатр "Люкс", далей цягнуцца аднапавярховыя драўляныя будынкі: крамкі, карчма, жылыя дамы. На рагу праспекта і вуліцы Паштовай у прыватным доме Шапіры месціцца пошта. Далей пачынаецца хваёвы лес, рэшткі якога захаваліся сёння ў выглядзе гарадскога парка. На месцы, дзе сёння парк абмяжоўваецца вуліцай Ленінскай, стаіць драўляны будынак Новабарысаўскай вучэльні. Далей, на левым баку праспекта, між хвоямі цягнуцца да вышэйзгаданых казарм драўляныя дамкі. Напрыканцы праспекта, на "Батарэях", перад першай сусветнай вайной быў абсталяваны першы ў Барысаве спартыўны комплекс "Школьны спорт".

Калі пройдземся па правым баку праспекта, то ўбачым насупраць "Люкса" двухпавярховы будынак, а далей, на месцы, дзе сёння гасцініца "Бярэзіна", напаткаем прыгожы, мудрагелісты драўляны дом, уладальнікам якога быў лесапрамысловец Кандрыян. Пасля Кастрычніка Кандрыян знікае і будынак выкарыстоўваецца новай уладай пад адміністрацыйныя патрэбы, потым там размяшчаецца радзільны дом. У канцы чэрвеня 1941 года ў гэтым будынку пад шыльдай гарадской бальніцы працаваў падпольны шпіталь, дзе было ўратавана ад гібелі шмат нашых людзей. У 1944 годзе дом быў спалены.

Насупраць сённяшняга ўваходу ў парк размешчана Юльеўская царква-школа, таксама драўляная. Далей па праваму баку праспекта цягнуцца аднапавярховыя драўляныя дамкі.

Пасля Кастрычніка ў пачатку 20-х гадоў на праспекце з'яўляюцца новыя цагляныя дамы. У той час быў пабудаваны дом, дзе месціцца міліцыя, і дом насупраць, дзе цяпер знаходзіцца скурвендыспансер. У гэтым будынку да вайны былі размешчаны НКУС, у гады вайны – гестапа. З 1925 г. адкрываецца аўтобусны рух. Напрыканцы трыццатых па праспекце паміж чыгуначным вакзалам і старым горадам курсіруе некалькі аўтобусаў, але яшчэ можна сустрэць вазкі рамізнікаў і ламавікоў.

Пісьменнік Аркадзь Лясны так апісвае сваю вандроўку па праспекце ў 1929 годзе: "Спачатку ля станцыі тыповая вуліца павятовага горада. Далей каменныя гарадскія будынкі чаргуюцца з маленькімі дамамі, схаванымі ў зяляніне бэзу, жоўтых акацый і дрэў. Паміж імі аазісы высокага сасонніку, пясчаныя пустэчы."

У пачатку 30-х г.г. частка лесу на праспекце абносіцца агароджай, тут адкрываецца гарадскі парк з бібліятэкай, цірам, спартыўнымі і дзіцячымі пляцоўкамі, летнім тэатрам, пакоем смеху.

У 1929-1930 г.г. на праспекце па арыгінальнаму праекту будуецца шэраг цагляных секцыённых дамоў, вырашаных у стылі канструктывізму: з прасторнымі пакоямі, скразнымі пад'ездамі, з працяглымі балконамі, якія апярэзваюць будынак. Да нашых дзён захаваліся два такіх будынкі: дамы №12 і 14 на перакрыжаванні з вуліцай Ленінскай. Дамы гэтыя лічыліся ў тыя гады прэстыжнымі. Асабліва пашанцавала дому № 12, які ў пасляваенныя гады меў у народзе аж две назвы: "Белы дом" і "Трумэнаўскі дом".

Ля цэнтральнага ўваходу ў парк культуры і адпачынку ў 1934 г. устаноўлены помнік У.І.Леніну, выкананы па праекту А.В.Грубэ. У час вайны помнік быў разбураны і адноўлены на гэтым жа пастаменце ў 1947 г.

Помнік С.К.Арджанікідзе, на перакрыжаванні праспекта і вуліцы Арджанікідзе, упершыню быў усталяваны ў 1936 годзе, але ў гады вайны быў знішчаны. У 1947 г. была ўстаноўлена даволі суровая на выгляд скульптура Арджанікідзе, якая ў 1996 годзе была заменена на бюст. Кажуць, што знясь састарэлую скульптуру





*Праспект Рэвалюцыі, 1957 год. Злева будынак раённай міліцыі. Фота Б.Фрэнэля (зверху)*

*Юльеўская царква – школа ў Новабарысаве на пачатку XX стагоддзя (злева)*

*Праспект графа Трубяцкога на пачатку XX стагоддзя (знізу)*






*Цэнтральны ўваход у гарадскі парк. Пачатак 50-х гадоў XX стагоддзя (злева)*

*Прывакзальная плошча. Будоўля дома ДАК Камінтэрн (левы дом так званых варотаў горада). Фота Б.Фрэндэля, верасень 1957 года (справа)*

*Выгляд з Прывакзальнай плошчы на праспект Рэвалюцыі. Фота Шапіры, травень 1956 года (знізу)*

рэвалюцыянера вельмі прасіў дырэктар хлебакамбіната, каб не палохала ў цемры яго работніц.

Вайна зруйнавала значную частку будынкаў на праспекце. Але і істотна разбураны, ён застаецца галоўнай вуліцай горада, дзе праходзяць самыя значныя падзеі ў жыцці горада, праводзяцца першамайскія і кастрычніцкія дэманстрацыі.

У пасляваенныя гады разам з адраджэннем прамысловасці Барысава і гарадской гаспадаркі, якія ажыццяўляліся хуткімі тэмпамі, ідзе аднаўленне праспекта Рэвалюцыі.

На пачатку 50-х гадоў з'яўляюцца будынкі па правым баку праспекта: на месцы Юльянаўскай царквы пабудаваны жылы дом фанерна-запалкавага камбіната; БМУ трактарнага завода будуе дом, дзе месціцца фотаатэлье. У той жа час пабудаваны дом ля прыпынку "8 сакавіка", суседнія дамы № 22 і № 26, дом, перад якім устаноўлены помнік Л.Чалоўскай. Сам помнік адважнай разведчыцы быў пастаўлены крыху пазней, у 1958 годзе.

На пачатку пяцідзесятых на праспекце былі заасфальтаваны тратуары, пасаджаны маладыя дрэўцы. У 1955 годзе былі пракладзены вадаправод і лівнёвая каналізацыя.

Упрыгожваецца ўваход у гарадскі парк. Замест сціплай драўлянай аркі будуецца цагляная з барэльефамі Леніна і Сталіна. Напрыканцы 50-х барэльефы правадыроў заменены на выяву дзяржаўнага герба СССР.

Кінатэатр у пасляваенныя гады месціўся на цотным баку праспекта і насіў назву "1 Мая", а ў народзе зваўся проста "сараем". Пазней насупраць быў узведзены будынак кінатэатра "Радзіма", які на доўгія гады стаў улюбёным месцам адпачынку гараджан.

У 1958 годзе прывакзальная плошча была нанова забрукавана і ўпрыгожылася двума 53-кватэрнымі будынкамі, якія ўзводзілі камбінат "Камінтэрн" і аўтарэмзавод. Дамы склалі комплекс у выглядзе сімвалічнай брамы на ўезддзе на галоўны праспект горада. Напрыканцы 58-га года частка праспекта пакрываецца асфальтам.

У гэты час пачынаюць акрэслівацца рысы цэнтральнай плошчы, дзе ўзведзены будынкі дамоў, між якімі зараз знаходзіцца вайсковы штаб. У той час на месцы штабнога будынка стаяў драўляны гандлёвы павільён, а будынак штаба падняўся пазней. На другім баку праспекта, на месцы цяперашняга Дому быту і плошчы да пачатку 60-х гадоў месціўся гарадскі стадыён.

У 60-х гадах стадыён быў перанесены на вул. Гагарына, а цэнтральная плошча пачала інтэнсіўна забудоўвацца. На ёй з'явіўся універмаг, будынак гарвыканкама, бібліятэка, крыху пазней Дом быту і Дом сувязі. У пачатку 70-х на праспекце ўзводзіцца першы ў Барысаве дзевяціпавярховы дом і побач –Дом спорту з плавальным басейнам. У гэты ж час ля кінатэатра "Радзіма" адчыняе дзверы новы будынак рэстарана "Бярэзіна", які да гэтага месціўся насупраць, на рагу праспекта і вул. Ленінскай. Пазней каля рэстарана вырас гмах, дзе знаходзіцца крама "Жамчужына".

Так паступова Вялікая вуліца прымала сучасныя абрысы. У 80-х гадах самай істотнай зменай у абліччы праспекта сталася адкрыццё ў 1982 г. гарадскога Палаца культуры, у час будаўніцтва якога быў знесены цэлы квартал старых аднапавярховых дамоў, і ўстаноўка помніка Леніну на цэнтральнай плошчы. Помнік, праект якога выканалі скульптарам А.Анікейчыкам, выраблены з бронзы і чырвонага граніту, вышыня яго больш васьмі метраў.

Прывабны, сучасны выгляд атрымалі апошнім часам будынкі хлебакамбіната, упрыгожыўшы праспект, што нячаста здараецца з прамысловымі аб'ектамі.

Не так шпарка мяняецца праспект за мостам, перакінутым цераз Маскоўскую магістраль. У 1962 годзе пераехаў у новае памяшканне побач з "Батарэямі" гарадскі краязнаўчы музей. Пазней з'явіўся прыгожы будынак Дома паляўнічага. Ідзе будаўніцтва Свята-Троіцкай царквы. Як і раней, збягаюць па схіле да ракі аднапавярховыя прыватныя дамкі.

Мост як бы падзяляе праспект на дзве розныя часткі: сучасную, дынамічную і старажытную, няшпаркую, з водарам хваёвага лесу на "Батарэях", з хвалюючым краявідам на пойму Бярэзіны і стары горад. Калісьці праспект заканчваўся транспартным мостам, які звязваў Нова- і Стара-Барысаў, і тады жыццё віравала тут. З пераносам асноўнага шляху на магістральны мост гэтая частка Вялікай вуліцы стала ціхай, нешматлюднай, і тут пасялілася Гісторыя.

**Е.Гракові́ч**

***P.S.** Рэдакцыя выказвае шчырую падзяку супрацоўнікам гарадскога краязнаўчага музея за прадастаўленыя матэрыялы і дапамогу пры падрыхтоўцы публікацыі.*



*Калона веласіпедыстаў Барысава на дэманстрацыі 7-га лістапада 1953 года (справа)*

*Дэманстрацыя працоўных. Калона друкарні імя 1–га мая. 7 лістапада 1951 года (знізу)*



*Дэманстрацыя працоўных 7 лістапада 1952 года. Злева - трыбуны (ля помніка Леніну). У калоне справа ў руках трымаюць партрэт Берыі (знізу)*



*Праспект Рэвалюцыі ў раёне вуліцы Паштовай. Фота Г Ермакова (знізу)*

*Завершана будаўніцтва новага дома (зараз - будынак ля аўтобуснага прыпынку 8-га сакавіка). Фота П.Наватарава (знізу злева)*





# БАРЫСАЎШЧЫНА АД НАЙСТАРАЖЫТНЫХ ЧАСОЎ ДА СУЧАСНАСЦІ

*(Працяг, пачатак у № 1-16, 18 - 20, 22 - 31, 34 за 1996 - 2002 гг.)*

## Лад тутэйшага жыцця і Барысаў у першай палове – сярэдзіне XIX стагоддзя

У першай палове XIX стагоддзя галоўным органам кіравання ў павеце заставаўся ніжні земскі суд. У яго ўваходзілі спраўнік, які кіраваў ім, асэсары і станавыя приставы. У павеце мелася дваранская апека, якую ўзначальваў маршалак. У яе таксама ўваходзілі суддзя і асэсары павятовага суда. Пасля вайны 1812 года тутэйшымі маршалкамі дваранства былі: з 1814 па 1820 год – Пій Тышкевіч (у больш раннія часы: з 1795 па 1797 год – Міхаіл Слізень, з 1797 па 1802 год – Станіслаў Ванькові́ч, з 1802 па 1805 год – Іосіф Слізень, з 1805 па 1808 год – Вікенцій Валадковіч, з 1808 па 1811 год – Міхаіл Антановіч, з 1811 па 1814 год – Міхаіл Зяновіч), з 1820 па 1823 год – Іосіф Цюндзявіцкі, з 1823 па 1826 год – Карл Тавянскі, з 1829 па 1832 год – Вікенцій Тышкевіч, з 1832 па 1835 год – Мельхіор Цюндзявіцкі, з 1835 па 1842 год – Банавентуры Асяцімскі, з 1842 па 1844 год – Іосіф Валовіч, з 1844 па 1847 год – Яўстахій Тышкевіч, з 1847 года па 1853 год – Міхаіл Карзаковіч, з 1854 па 1856 год – Аляксей Чудоўскі, з 1854 па 1856 год – Франц Мокржыцкі.

Павятовы суд складаўся з суддзяў, галоўнага асэсара і яшчэ двух асэсараў, якія выбіраліся з тутэйшых землеўладальнікаў, што мелі прыгонных сялян. З маёмасных людзей абіралася і гарадское праўленне ("управа благочиния") на чале з паліцмейсерам. Гарадская рада і магістрат, якімі кіравалі адпаведныя главы, складаліся з бургамістраў і дарадцаў. Аднак выбарчы орган – гарадскі магістрат – быў цалкам пад кантролем улады і самастойнай ролі не адыгрываў.

Меўся ў Барысаве і сіроцкі суд, якім кіраваў галава або бургамістар і ў які ўваходзілі абраныя прадстаўнікі дваранства. Славесны суд таксама абіраўся з тутэйшых жыхароў. Жыллёвую камісію ўзначальваў гарадніччы або паліцмейсцер, якія абіраліся са шляхты або мяшчан. Існаваў выканаўчы камітэт. У яго ўваходзілі гарадніччы, духавенства, земскі спраўнік, павятовы суддзя і павятовы медык. Дзейнічала ў Барысаве і камісія шляхоў. Яна складалася з гарадніччага, земскага спраўніка і павятовага землямера. Быў у той час і камітэт кантролю за продажам гарэлачных вырабаў. У яго ўваходзілі сябры і дэпутаты, якія абіраліся. Вакцыйны камітэт, камісію шляхоў і камітэт па нагляду за продажам гарэлачных вырабаў узначальвалі адпаведныя маршалкі. Быў у Барысаве і апякун запасных вайсковых магазінаў. Абіраўся і турэмны камітэт, які займаўся апекай вязняў. Узначальваў яго таксама адмысловы маршалак. Казначэйства складалася з казначэя і бухгалтараў. Поштай кіравалі пашмейстар і яго наменснік.

У 1840 годзе ў Менскай губерні касуецца дзеянне Статута Вялікага Княства Літоўскага і ўсе справы пачынаюць весціся згодна расійскіх законаў.

Што ўяўляў сабою наш горад і якія памеры меў у першай палове – сярэдзіне XIX стагоддзя? У 1829 годзе была ўтворана адмысловая камісія, якая павінна была вызначыць павіннасці, крыніцы даходаў горада і правесці новую мяжу яго землям. У 1830 годзе камісія сваю працу скончыла. У выніку горад атрымаў на 516 дзесяцін болей, чым было па размежаванню з Радзівілам, што праводзілася ў 1797 годзе. Агульная плошча земляў горада склала 2645 дзесяцін 3240 сажняў кв. Сюды ўвайшлі не толькі землі, якія былі непасрэдна заняты пад горад, але і сенажаці, пашы і навакольны хмызняк.

У 1833 годзе павятовы каморнік Савінскі адшукаў доказы таго, што Радзівіл адносна інвентара 1797 года прысвоіў сабе 2850 дзесяцін 2240 сажняў кв. зямлі, якая павінна належыць гораду. Савінская падтрымала гарадская рада і распачыла з князем судовую справу. Яна цягнулася болей за 15 год, але не дала ніякіх вынікаў.

У 1853 годзе плошча горада складала 10500 сажняў, амаль чвэрць якой займаў базар.

Да 1830 года быў распрацаваны новы план Барысава а ў 1830 годзе быў найвышэйшым чынам зацверджаны. Аднак план гэты так і не быў рэалізаваны. Горад чакаў распараджэнняў зверху па яго здзяйсненню. Яны павінны былі быць выпрацаваны ў Менску. Але ў Барысаве патрэбных распараджэнняў так і не дачакаліся. Адмоўна на рэалізацыі плана адбілася тое, што ў горадзе на той момант амаль адсутнічала прамысловасць. Толькі час ад часу ўзнікалі адно – тры прадпрыемствы, але неўзабаве яны і знікалі. Гэта значна пагаршала фінансавае становішча і магчымасці горада.

Барысаў у першай палове XIX стагоддзя амаль цалкам заставаўся забудаваны драўлянымі будынкамі. Каменнымі былі толькі касцёл і будынак казначэйства, які быў адбудаваны на частцы падмурка магістрата пасля вайны 1812 года. Такі стан захоўваўся да 60-х гадоў XIX стагоддзя, калі ў 1866 годзе была пабудавана цагляная сінагога. Драўляных будынкаў у Барысаве было ў 1817 годзе – 318, у 1825 годзе – стольні ж – 318, у 1828 годзе – 319, у 1848 годзе – 422, у 1854 годзе – 580.

Цэнтр Барысава на фоне шэрагу іншых гарадоў Беларусі не вылучаўся чысцінёй і багаццем сваіх жыхароў. Шмат хто з мяшчан трымаў хатніх жывёлін, якія дзесяткамі разгульвалі па вуліцах горада.

У 1817 годзе ў Барысаве акрамя касцёла і двух цэркваў было прыхадское вучылішча, богаўгодная ўстанова, тракцір, 16 піцейных дамоў, лазня і крама. Тое самае, толькі без крамы, адзначаецца ў Барысаве і ў 1825 годзе. У 1847 годзе ў апісанні Барысава ўзгадваюцца мураваны касцёл, дзве драўляныя царквы, два малітоўныя яўрэйскія дамы, два млыны, тры дамы, якія належылі магістрату, 604 прыватныя дамы. У цэнтры горада каля квадратнага базара знаходзілася парафіяльная царква, якая была ўзведзена ў 1834 годзе на месцы больш старой. Базар меў плошчу 2352 сажняў кв. (прыблізна 10700 м²). На ім было 62 крамы, карчма. Знаходзілася апошняя ў цэнтры горада. Аднак яна была старая, стан яе быў дрэнным, і таму яна мусіла быць знесена.

У 1846 годзе ў горадзе будуецца новы разводны на ланцугах мост праз Бярэзіну. Яго будаўніцтва абышлося казне ў 15000 рублёў срэбрам. Ён становіцца не толькі адным з адметных збудаванняў у горадзе, але і любімым месцам прагулак мяшчан. У той час у горадзе не было ніводнага парка або сквера.

*(Працяг будзе)*
***М.Мацельскі***

# Барысаўскі завод агрэгатаў: гісторыя і сучаснасць

*Кожны, хто ўязджае ў наш горад па магістралі з боку Воршы, не можа не звярнуць увагу на прыгожа выпісаную па-беларуску назву завода. Гэты завод як візітная картка прамысловага Барысава. А на цэнтральнай прахадной завода можна ўбачыць і яркую лічбу "1878" - гэта год заснавання завода.*

Цяперашні кіраўнік прадпрыемства Сакалоўскі В.А. не адмовіўся распавесці пра гісторыю ўзнікнення тут вытворчасці, і, як аказалася, гэтае прадпрыемства дало жыццё многім іншым заводам горада.

А пачыналася ўсё ў далёкім 1878 годзе, калі за кошт казны на гэтым месцы быў збудаваны лесазавод. На ім працавала 34 рабочыя і першы ж год працы прынёс прыбытак у 59 тыс. рублёў. У 1881 годзе завод быў куплены саратаўскім купцом Саламонавым, які дадаткова арганізаваў тут судаверф, а з 1891 года – вытворчасць запалак. Да пачатку 1900 года на прадпрыемстве было ўжо занята 759 чалавек, а гадавы выпуск прадукцыі склаў 586 тыс. рублёў. У той час гэта было самае вялікае прадпрыемства ў горадзе.

У 1910 годзе завод меў наступную вытворчасць: лесапільную, запалкавую, друкарскую, скураную, мэблевую, тарную.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі завод быў нацыяналізаваны. Разбураны ў час грамадзянскай вайны, завод быў адноўлены да 1921 года. У 1926 годзе тут ужо працавала 600 рабочых. А ў 1927 годзе прадпрыемства было перайменавана ў камбінат, і з яго выдзеліліся і сталі самастойнымі друкарня і скураны завод. Тарная вытворчасць была перададзена лесазаводу "Камінтэрн".

У 1934 годзе на базе завода арганізуецца вытворчасць піяніна, і ўжо да 14 ліпеня 1935 года першыя музычныя інструменты былі выпушчаны. А ў 1940 годзе было ўжо выпушчана 276 піяніна, што дазволіла прыняць рашэнне аб будаўніцтве самастойнай фабрыкі ў новай частцы горада. У 1941 годзе на заводзе працавала 1200 чалавек, а аб'ём выпуску прадукцыі склаў 2500 тыс. рублёў.

У гады апошняй вайны завод быў разбураны і аднавіўся ў 1947 годзе як судаверф, а ў паўразбураным будынку сталоўкі размясціўся кузаўны цэх аўтарэмзавода. У 1957 годзе судаверф з-за невялікіх аб'ёмаў вытворчасці ліквідуецца і прымаецца рашэнне аб стварэнні станка-рамонтнага завода, які праіснаваў да 1958 года. Затым на яго базе арганізуецца цэх Мінскага трактарнага завода. МТЗ паставіў абсталяванне, правёў рэканструкцыю і ўжо ў лістападзе 1958 года асвоіў выпуск гідрамеханізмаў да трактара "Беларусь".

У 1960 годзе на заводзе працавала 586 чалавек. Аб'ём прадукцыі склаў 3000 тыс. рублёў. У 1961 годзе рашэннем урада філіял МТЗ быў пераўтвораны ў самастойны завод гідраапаратуры, а з 1-га студзеня 1970 года перайменаваны ў Барысаўскі завод агрэгатаў Міністэрства трактарнага і сельскагаспадарчага машынабудавання.

Безумоўна, за час існавання завода агрэгатаў таксама многае было зроблена. Гэта і работа па спецыялізацыі завода, тэхнічнае пераўзбраенне, будаўніцтва новых корпусаў, створана сацыяльная база, упарадкавана тэрыторыя. Сёння відавочна адно, што гэта прадпрыемства, якое і ў цяперашніх неспрыяльных эканамічных умовах працуе стабільна. 1400 барысаўцаў знайшлі тут сабе працу. Сярэдняя ж зарплата за студзень 2002 года склала 178 тыс. рублёў.

Старэйшае прадпрыемства горада і сёння паказвае прыклад выніковай працы.

***М.Пучыла***

# Пажывём – убачым?

*Гісторыя вымяраецца вялікімі часавымі адрэзкамі. Стагоддзе – не самы вялікі з іх. Вось і Барысаву ўжо дзевяць вякоў. Але ж непрацяглае чалавечае жыццё ў рамках неабсяжнай гісторыі значыць таксама не мала. Таму, мабыць, звычайнаму чалавеку больш зручна разглядаць і аналізаваць гістарычныя з'явы ў межах аднаго чалавечага жыцця.*

*Восемдзесят чатыры гады таму ў лютым нарадзіўся мой дзядзька – самы малодшы і цяпер ужо адзіны з членаў некалькі вялікай сям'і. А што адбывалася ў Барысаве на час яго нараджэння?*

21 лютага 1918 года кайзераўскія войскі акупіравалі Барысаў. Цяжкі час безуладдзя для простага безабароннага чалавека. А тут яшчэ ўся міліцыя ўлілася ў адступаючыя часці. Бандытызм і марадзёрства ўспыхнулі з новай сілай.

Аднак змяненні, выкліканыя рэвалюцыяй у Германіі, надарвалі сілу акупантаў. Адбылося сумеснае пасяджэнне Барысаўскага Савета і Савета, арганізаванага нямецкімі салдатамі, якое пастанавіла выдаць рабочым 90 вінтовак для арганізацыі атрада рабочай самаабароны. Гэты атрад налічваў 200 чалавек, камандавалі ім А.А.Вульфіце і паліткамісар Б.Н.Сыркін. Перад атрадам стаяла задача абараніць насельніцтва горада ад самаўпраўства адступаючых нямецкіх войскаў. За некалькі дзён да адступлення з горада нямецкае камандаванне выпусціла з турмы ўсіх крымінальных злачынцаў, чым вельмі ўскладніла абстаноўку. Злачынцы зліліся ў банду пад кіраўніцтвам Чычанка. Аднак рабаўніцтвы і злачынствы гэтай банды працягваліся нядоўга. Атрад рабочай самаабароны знішчыў яе.

У вызваленым Барысаве пачаў дзейнічаць Савет рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў. Атрад рабочай самаабароны быў пераўтвораны ў рабоча – сялянскую міліцыю, начальнікам якой прызначылі загадчыка бюро юстыцыі Барысаўскага Савета А.А.Вульорыўса.

Абстаноўка была складаная – голад, разруха, бандытызм. Усё гэта адбывалася на фоне гвалтоўнага станаўлення новай сістэмы ўлады, якая нярэдка ўсіх сваіх недабразычліўцаў "запісвала" ў бандыты. У справаздачы Барысаўскай рабоча – сялянскай міліцыі за 1919 год чытаем: "Усе лясныя дарогі, якія вядуць з Барысава, запоўнены бандытамі. У красавіку банда колькасцю 12 – 16 чалавек захапіла атрад міліцыянераў з 6 чалавек на чале з начальнікам міліцыі раёна і адвяла іх у лес. Калі аб гэтым даведаліся ў горадзе, то астатнія міліцыянеры – іх было 28 чалавек – накіраваліся на выручку сяброў. Акружылі банду на адным з хутароў каля Барысава і пасля трохгадзіннага бою захопленыя былі адбіты, а банда знішчана".

У траўні 1919 года акты візавалі свае дзеянні змагары з новай уладай і банды з Красналуцкай, Халопеніцкай, Кішчына – Слабодскай і Бытчанскай воласцей. 4 – га жніўня чатыры маладзшыя міліцыянеры выехалі на ліквідацыю банды, якая спынілася ў вёсцы Мачулішчы. Бандыты даведаліся аб набліжэнні міліцыянераў і, зрабіўшы засаду, жорстка расправіліся з імі.

У гісторыі знаходзяцца вытокі як дадатных з'яў у арганізацыі аховы грамадскага парадку, так і адмоўных. Вось такія кур'ёзы, як сведчыць барысаўская газета той пары, не замоўчваліся і не хаваліся тады ад грамадскасці. Пад загалоўкам "Злодзеі" ў міліцыі" быў змешчаны наступны матэрыял. "Днямі а першай гадзіне ночы ва ўпраўленне Барысаўскай гарадской міліцыі зайшлі па справе начальнік канцылярыі ваенкама т.Іофэ ў суправаджэнні аднаго начнога дзяжурнага камуністычнага ахоўнага атрада. На іх здзіўленне, ва ўсім памяшканні міліцыі не аказалася ніводнай душы, па ўсіх сталах былі раскіданы ў хаатычным беспарадку кнігі, паперы, дакументы. На вокрыкі ніхто не адазваўся нават з другой паловы дома. Жадаючы пакінуць рэальны след і доказы такога выключнага беспарадку, т.Іофэ забраў з кабінета начальніка міліцыі тры вінтоўкі з пяці, якія стаялі ў кутку, і спакойна аднёс іх у камендацыю.

На наступны дзень да чатырох гадзін дня з міліцыі начальства не з'яўлялася з адпаведным рапартам да ваенкама, а таму т.Бенгер выклікаў да сябе начальніка міліцыі і яго памочніка".

Як бы там ні было, а вялікая сям'я майго дзядзькі выжыла ў тыя крывавыя, драматычныя гады пераломy. Выжыла дзякуючы рабоце тагачаснай міліцыі таксама. Канечне, цяпер не адназначна ацэньваюцца падзеі тых дзён. Пад агульнае паняцце бандытызму тады падпадалі, вядома, не толькі згуртаванні крымінальных злачынцаў, але і не згодныя з новым камуністычным рэжымам. Але ж гісторыя калі яшчэ і не расставіла, то расставіць усё на свае месцы. Падумаць толькі – і ста гадоў не прайшло з той пары. Адно чалавечае жыццё... А мы жывём ужо ў іншай эпосе. Ці гэта ўсё яшчэ тая самая эпоха? І на гэтае пытанне адказа толькі гісторыя.

***А.Турко***



Вуліца Менская на паштоўцы пачатку ХХ стагоддзя

# Барысаў у сярэдзіне 30-х гадоў ХХ стагоддзя

*Мы працягваем друкаваць цыкл успамінаў старажылаў пра Барысаў. Сёння, як і ў па-за мінулым нумары, вашай увазе прапануюцца ўспаміны Георгія Рыгоравіча Герасімёнка*

У сярэдзіне 30-х гадоў паўночная мяжа абжытай і забудаванай часткі Барысава праходзіла па канцах вуліц Полацкай, Лепельскай і Андрэеўскай (зараз адпаведна Лапаціна, III Інтэрнацыянала і п.Нармандыя-Нёман). У канцы вуліцы Лепельскай быў аграмадны пладовы сад даўжынёй да вуліцы Полацкай, за ім ужо пачыналася поле: частка яго, ля сада, належыла гарсавету, частка – калгасу "Маяк сацыялізму". Далей знаходзіўся ваенны аэрадром.

У гэтыя гады і пачалася забудова паўночнай часткі тэрыторыі горада жылымі дамамі. Уздоўж паўднёвай мяжы сада была пракладзена вуліца Сацыялістычная, перпендыкулярна да яе ад яе сярэдзіны – вуліца Мопраўская. Тут сяліліся маламаёмасныя людзі, таму і дамкі, і двары, і надворныя пабудовы мелі несамавіты выгляд, які рэзка адрозніваўся ад выгляду дамоў і сядзіб старой часткі горада, дзе здаўна жылі барысаўскія мяшчане.

Вуліцы гэтыя былі ціхія, зарослыя травой, мелі зусім не гарадскі выгляд, на іх пасвіліся свінні, куры; пасля дажджу ў паніжэннях стаялі глыбокія лужыны.

У дамах было па двое-трое, а дзе-нідзе і па чацвёра-пяцёра дзяцей, таму вуліцы з ранку да вечара звінелі ад дзіцячых галасоў. Гулялі ў лапту, пікера, чыжыка, хованкі. Гэтай гульні спрыялі кучы будаўнічых матэрыялаў, якія ляжалі каля недабудаваных дамоў. Асаблівае захапленне вызывалі лужыны – так добра было летам блукаць па іх па калена ў цёплай вадзе.

Сад калісьці належыў нейкаму Бабіцкаму. Тады ён быў дагледжаны і даваў вялікія ўраджаі яблык. У 30-ыя гады сад быў нацыяналізаваны і перададзены дзіцячаму дому. Ад той пары пачаўся яго заняпад. Але і да пачатку вайны яшчэ захавалася вялікая частка гэтага сада.

У канцы вуліцы Андрэеўскай пачынаўся глыбокі яр, які цягнуўся далёка на поўнач. На яго ных схілах раслі пахучыя травы, тут было цёпла і прывольна. Дзятва любіла гэтае месца і ахвотна бегла сюды гуляць. Тут можна было ўбачыць яшчарку, знайсці птушынае гняздзечка. На паўночных схілах, у цяньку, раслі чарніцы. Зараз на гэтай тэрыторыі месціцца прыборабудаўнічы завод.Час ад часу мы знаходзілі тут нейкія іржавыя жалезкі і пазелянеўшыя ад часу мядзяшкі. Распавядалі, што тут знайшлі французскі штык. Усё гэта надавала яру таямнічасць і прыцягальнасць.

*Г.Герасімёнак*

# Атавізмы постсавецкай эпохі…

У Барысаве, як, зрэшты, у шмат якіх гарадах Беларусі, ёсць вуліца імя вядомага ў СССР рэвалюцыянера М.С.Урыцкага. Але не кожнаму з нас тлумачылася, што ў час грамадзянскай вайны гэты бальшавік-ленінец застаўся ў памяці тагачасных жыхароў Петраграда яшчэ і лютым драпежнікам, які арганізоўваў паляванне на людзей.

З'яўляючыся старшынёй Петраградскай НК з сакавіка па жнівень 1918 года М.Урыцкі і ягоныя паплечнікі – члены калегіі надзвычайкі таварышы Анвельт, Бух'ян, Дзіспераў, Гілер, Мейкман, Іселевіч, Размісловіч, Красікаў, Казлоўскі, Мербіс, Пайкіс па тэлефонных даведніках адшуквалі пазначаныя там прозвішчы і хатнія адрасы выбітных і ўплывовых у горадзе і ў краіне прафесараў, інжынераў, урачоў, святароў, навукоўцаў і – такім вось каварным чынам – арыштоўвалі іх, "як старарэжымны асабліва небяспечны і шкодны элемент", каб потым памясціць у турму… ў якасці заложнікаў (!). Лёс большасці ахвяр у мурах НК таго крывавага перыяду адназначны – расстрэл.

Менавіта так усталёўвалі тады сваю ўладу над народам бальшавікі. За гэтыя "подзвігі" Маісея Саламонавіча Урыцкага 31 жніўня 1918 года забілі сацыял-рэвалюцыянеры (эсэры).

Адсюль узнікае пытанне: ці можа зараз вышэйзгаданая вуліца насіць не зусім, мякка кажучы, годнае імя? Зразумела – не.

Спадзяюся, што грамадскасць Барысава падтрымае маю прапанову: перайменаваць гэтую ды шэраг іншых вуліц горада і даць ім больш адпаведныя назвы, бо, калі чаравікі зношваюцца, іх выкідаюць!

Лічу, што для гісторыі трэба пакінуць з той, савецкай, мінуўшчыны толькі назвы вуліц – 30 год ВЛКСМ, 50 год БССР ды праспект Рэвалюцыі. Гэтага дастаткова, каб нашчадкі ведалі пра эпоху камунізацыі нашай некалі суперрадыкальнай рэспублікі. Нам, беларусам, ёсць каго праслаўляць! Свае месца ў еўрапейскай цывілізацыі мы здабылі даўно і філасофскі асэнсоўваем гэта…

*А.Шустоўскі*

# Што елі жыхары Ухалоды на пачатку ХХ стагоддзя

*(Заканчэнне, пачатак на стар. 7)*

тварам да іконаў. Малітвы чыталі паўшэптам. У час малітвы маглі шуганудь са стала курыцу ці кошку, выругацца пры тым, і зноў працягваць маліцца. Гаспадыня звычайна малілася ля печы, адначасова арудуючы ўхватам. Дзеці (з 5-6 гадоў), стоячы ля стала, маліліся ў голас. Маліцца дзяцей вучыў хто-небудзь са старых.

У будні дзень на абед была звычайна бульба абабраная, ці ў мундзірах, ці печаная. Яна высыпалася на стол. Другая страва – суп бульбяны, запраўлены смажаным салам. Магчыма зацірка ці поліўка з хлебам.

Супы і кашы ўся сям'я ела з агульнай міскі. Запівалі абед вадой з вядра па патрэбе. Гарбаты не было.

Полудзень рыхтаваўся разам з абедам – капуста з мясам (з грыбамі), бульбяныя скрылікі ці якаянебудзь каша. Маглі быць крупы з мясам, бульбяная бабка. Усё залежыла ад наяўнасці прадуктаў. Але асаблівага дастатку я не памятаю.

На полудзень сыходзіліся па сонцу ці па гудку з папяровай фабрыкі. Да таго часу прыганялі кароў з выгану. Калі хто з сям'і не мог прыйсці дахаты, яму неслі ежу ў поле ці на луг. Калі ішлі працаваць далёка - бралі полудзень з сабою: кавалак сала і хлеб.

Вячэралі пасля заходу сонца бульбай, рэшткамі ад палудня. Елі булён з малаком, крупы з малаком, сыракашу.

*І.Клімковіч*

# Не маем права забыць

*Напрыканцы студзеня бягучага году ў Літаратурным музеі імя Янкі Купалы ў Менску адбылася прэзентацыя першай кнігі сэрыі "Беларускі індэкс рэпрэсаваных". Аўтарам з'яўляецца гісторык Ігар Кузняцоў, вядомы нам па кнізе "Канвеер смерці. Дакументы. Сведчанні. Успаміны" (Менск, 1997 г.).*

Новая праца навукоўца называецца "Індэкс ураджэнцаў Беларусі, рэпрэсаваных у 1920 - 1950-я гг. у Заходняй Сібіры". Кніга выйшла ў свет дзякуючы намаганням Архіва Найноўшай Гісторыі пры Грамадзкім Аб'яднанні "Дыярыуш". У ёй утрымліваюцца пайменны спіс і кароткія звесткі пра 1261 ураджэнца Беларусі, знішчанага сталінскім рэжымам на тэрыторыі сучасных Новасібірскай і Томскай абласцей Расійскай Федэрацыі, а таксама вытрымкі з дакументаў тых гадоў.

Вядома ж, нас зацікавіў раздзел кнігі, дзе прыведзены спіс рэпрэсаваных. Там мы адшукалі прозвішчы нашых землякоў. Нарадзіліся яны задоўга да 1917 года, калі горад Барысаў быў адміністрацыйным цэнтрам аднайменнага павета Менскай губерні. Амаль усе прозвішчы вернутыя з нябыту і друкуюцца ўпершыню.

**Абельчук Зінаіда Агафенгелаўна**, 1899 г., нарадзілася ў г. Барысаве, пражывала ў г. Томску, хатняя гаспадыня. Арыштавана ў 1937 г. Расстраляна.

**Барабуля Міхаіл Раманавіч**, 1902 г., нар. у пасёлку Нова-Барысаў Барысаўскага павета Менскай губ., пражываў у в. Тахтамышава Томскага р-на, не працаваў. Арыштаваны ў 1937 г. Асуджаны на 8 год пазбаўлення волі.

**Барабуля Міхаіл Раманавіч**, 1902 г., нар. у пас. Нова-Барысаў, пражываў у г. Баку АзССР, рыбзавод "Яшма", рыбак. Арыштаваны ў 1938 г. Асуджаны на 8 год пазбаўлення волі.

**Быкаў Марк Алімп'евіч**, 1864 г., нар. у в. Сяменкавічы Барысаўскага павета, пражываў у в. Казанка Нова-Кускоўскага р-на Томскай акругі, аднаасобнік. Арыштаваны ў 1931 г. Асуджаны да высылкі на 5 год ва Усходне-Сібірскі край.

**Вершалоўскі Язэп Венядзіктавіч**, 1887 г., нар. у в. Вярушчына Барысаўскага павета, пражываў у пас. Мядзьвежы Двор Васюганскага р-на, шавец калгаса "Ідэя Леніна". Арыштаваны ў 1942 г. Асуджаны на 10 год пазбаўлення волі і 5 год паражэння ў правах.

**Голуб Акім Якаўлевіч**, 1906 г., нар. у в. Зарослае Барысаўскага пав., пражываў у в. Кайбінка Туганскага р - на, не працаваў. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.

**Ганчароў Ануфрый Трафімавіч**, 1877 г., нарадзіўся ў Барысаўскім павеце, пражываў у в. Закіргізка Туганскага р-на, член калгаса імя "7-га з'езду Саветаў". Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.

**Гаспадарык Яфрэм Гаўрылавіч**, 1890 г., нар. у в. Студзёнка Барысаўскага п. Мінсакай губ., пражываў у пас. Іванаўка Крывашэінскага р - на, член калгаса імя Куйбышава. Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.

**Жорава-Ліпень Вікторыя Адольфаўна**, 1909 г., нар. у г. Барысаве, пражывала ў г. Томску, хатняя гаспадыня. Арыштавана ў 1937 г. Расстраляна.

**Жук Альжбета Ігнацьеўна**, 1904 г., нар. у в. Верацейка Барысаўскага пав., пражывала ў г. Томску, сарціроўшчыца тары "Заготзярно". Аыштавана ў 1938 г. Расстраляна.

**Жук Цімафей Мікітавіч**, 1898 г., нар. у в. Верацейка Барысаўскага п-та, пражываў у г. Томску, бракёр трэста "Томлес". Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.

**Жукоўскі Антон Язэпавіч**, 1885 г., нар. у г. Барысаве, пражываў у г. Томску, ксёндз рыма - каталіцкай царквы. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.

**Іваноўскі Пятро Антонавіч**, 1909 г., нар. у в. Цагельня Барысаўскага п-та, пражываў у пас. Белы Яр Цегульдзецкага р-на, чорнарабочы дзіцячага дома. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.

**Каляда Марк Васільевіч**, 1873 г., нар. у в. Рудкі Барысаўскага п-та. Пражываў у в. Рубеж Цегульдзецкага р - на, член калгаса "Северный луч социализма". Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.

**Касцюкевіч Міхаіл Рыгоравіч**, 1874 г., нар. у в. Лошніца Барысаўскага п-та, пражываў у в. Малчанава Крывашэінскага р-на, пячнік лякарні. Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.

**Лапідус Мойша Самойлавіч**, 1916 г., нар. у г. Барысаве, пражываў у г. Каўпашэва, кравец арцелі "Цветущий Север". Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.

**Лукашэвіч Валянцін Сяргеевіч**, 1910 г., нар. у в. Раўная (Раўны) Барысаўскага п-та, пражываў на хутары Цвяткоўскі Туганскага р - на, член арцелі "Прагрэс". Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.

**Міхневіч Кірыл Ігнацьевіч**, 1883 г., нар. у в. Слабада Барысаўскага п-та, пражываў у пас. Новы Труд Цегульдзецкага р-на, член калгаса "18-й Акцябр". Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.

**Акаловіч Апалінарый Балеслававіч**, 1915 г., нар. на хутары Лужкі Кішчына-Слабадской воласці Барысаўскага п-та, пражываў у в. Падгорнае Чаінскага р - на, сарціроўшчык пошты. Арыштаваны ў 1938 г. Расстраляны.

**Акаловіч Баляслаў Карлавіч**, 1898 г., нар. у в. Скураты (фальварак або засценак Скураты) Барысаўскага п-та, пражываў у в. Падгорнае, дзесятнік на дарожным будаўніцтве. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.

**Панкавец Лазар Аляксеевіч**, 1877 г., нар. у в. Сморкі (з 1978 г. Зорычы) Вяляціцкай воласці Барысаўскага п-та, пражываў у пас. Сачыга Парабельскага р - на, член арцелі "Красное Знамя". Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.

**Радкевіч Уладзімір Францавіч**, 1910 г., нар. на хут. Караўшчына Зембінскай воласці Барысаўскага п-та, пражываў у пас. Табога Чаінскага р - на, аднаасобнік. Арыштаваны ў 1933 г. Асуджаны на 10 год пазбаўлення волі.

**Разэт Берта Анатольеўна**, 1896 г., нар. у г. Барысаве, пражывала ў г. Томску, урач - рэнтгенолаг мед-інстытута. Арыштавана ў траўні 1938 г. Вызвалена ў снежні 1938 г. Справа спынена за недаказанасцю складу злачынства.

**Раманоўскі Мікалай Людвігавіч**, 1907 г., нар. у г. Барысаве, пражываў у в. Шэгарка, начальнік радыёвузла. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.

**Сялецкі Канстанцін Юр'евіч**, 1901 г., нар. у в. Глобачанск Барысаўскага п-та, пражываў у в. Белабарадава Томскага р - на, вартаўнік будоўлі працкалоніі № 1. Арыштаваны ў 1937 г. Расстраляны.

**Сушкевіч Аляксандр Міхайлавіч**, 1895 г., нар. на хутары Марысіна Зембінскай воласці Барысаўскага п-та, пражываў у в. Асіно, прараб "Заготзярно". Арыштаваны ў 1937 г. Асуджаны на 10 год пазбаўлення волі і 5 год паражэння ў правах. Вызвалены ў чэрвені 1940 г.

*А.Аляхновіч, краязнаўца*

# Зіхоткія фарбы талентаў

## Зіма ў горадзе

Пасля мокрай і сумнай восені прыйшла ў мой горад прыгажуня-зіма. Белым мяккім снегам пакрыла ўсю зямлю, вуліцы, дрэвы, дамы, быццам захінула ўсё навокал белай хусткай. Састарэлыя прыватныя хаціны Барысава сталі падобнымі на казачныя церамкі са скрыўленымі набок шапкамі, а дым з комінаў напаўняе паветра пахам вёскі. Вокны ў хатах размаляваў мароз-тынкоўшчык. Гэткіх цудоўных, дзівосных узораў самы таленавіты мастак не намалюе!

Зіма ўсё прадумала. На дрэвах іскрыцца калючы іней, а снегірыліхтарыкі, як навагодніх цацкі, упрыгожваюць заінелыя галінкі.

Рыбаловы на рацэ мне нагадваюць ваўка з казкі. Памятаеце, ён лавіў рыбу на хвост, прымёрз і не мог адарвацца. Вось і яны – не зварухнуцца, засяроджана сочаць за паплаўкамі. Халодна. Днём сонейка свеціць, але не грэе. Снег зіхаціць, як россыпы каштоўных камянёў. Горад рыхтуецца да свайго 900-годдзя і нагадвае кватэру, у якой гаспадыня распачала капітальны рамонт... Жыхары снуюць, як мурашкі, засяроджаныя на сваіх праблемах. Смяюцца мітуслівыя дзеці, іх не палохае мароз. А вось беспрытульныя жывёлы, якім нясоладка прыходзіцца зімовай парой, туляцца каля цёплых люкаў і жаласна глядзяць на прахожых. Гэтая сумная карціна прымушае задумацца аб тых жыхарах Барысава, старых і малых, якія пазбаўлены хатняга прытулку. Можа, у гэты юбілейны год і на іх звернуць увагу, арганізуюць для іх начлег, дзе яны змогуць хоць ноччу адчуць сябе людзьмі…

На мой горад апускаецца марозная ноч. Бетонныя шматпавярховыя дамы нагадваюць ледзяныя глыбы-айсбергі.

Цішыня. Гэтую цішыню парушаюць адзінокія прахожыя, што спяшаюцца дадому і хутаюцца ў цёплыя футры ды шалікі. Пад іх нагамі звонка рыпіць снег. Жыццё ў маім горадзе не заціхае ні на хвіліну…

*Людміла Пятрова, 8 "А", СШ № 17*

## Родны мой Барысаў

Між бароў, гаёў, палёў,<br>Ля ракі празрыстай<br>Вырас родны горад мой<br>З назваю — Барысаў.<br>Ўсё дзяцінства тут прайшло<br>У гульнях і забавах.<br>Мне пакінула яно<br>Успамін яскравы.<br>Горад бачыў гора шмат:<br>Войнаў і нападаў...<br>Але ён, нібы салдат,<br>Ўсё стаяў, не падаў.<br>Праз усю вайну пранёс<br>Непаўторны вобраз.<br>Мы да сённяшняга дня<br>Чуем яго голас.<br>Чуем подых мы вятроў,<br>Шэпт травы зялёнай,<br>І размовы ліп, дубоў,<br>Верабінаў, клёнаў.<br>Спевы птушак па вясне,<br>Доўгія прагулкі,<br>Гоман вуліц гарадскіх<br>Ціхія завулкі,<br>Школы, помнікі, сады –<br>Гэта твае рысы.<br>Дык квітней жа, горад мой,<br>Родны мой Барысаў!

*Марына Барашка, 9А, СШ № 15*




## Мой горад

Мне бясцэнны Радзімы абрысы,<br>Ганаруся я краем сваім.<br>А мой горад, мой родны Барысаў,<br>Назаўсёды у сэрцы маім.

Бачыў горад дабро і варожасць,<br>Орды прагных і злых чужакоў.<br>Але ён адстаяў сваю годнасць<br>І прайшоў праз віхуры вякоў.

Уставаў з-пад руін непакорных,<br>Каб ізноў аднаўляцца і жыць.<br>І стаіць ён , вядомы і горды,<br>Нібы волат над краем стаіць.

*Даша Курэўлева, 7 "Г", СШ № 24*



Святыя месцы Барысава. Алена Бандарчук, СШ № 2

## Барысаву

Я люблю цябе мой горад,<br>Як магчыма толькі ў свеце,<br>Самы чысты і зялёны,<br>Самы родны на планеце.<br>Я табою ганаруся,<br>Гавару табе я: "Дзякуй."<br>Ты – мой лёс, і не патрэбна<br>Больш Радзімы мне ніякай.<br>Я жадаю табе шчасця,<br>Даўгалецця, прыгажосці,<br>Каб любілі цябе людзі –<br>Землякі мае і госці.<br>Дзе б я ні была, усюды<br>Пра цябе я думаць буду.<br>І хачу ў дзень нараджэння,<br>Пажадаць здзяйснення цуда!

*Крысціна Дрозд, 9 "А", політэхнічны ліцэй*

## Мой горад

Барысаву майму ўжо дзевяцьсот.<br>Шмат зведаў перамог і ён нягод.

Падзелены на часткі дзве ракой<br>Узнёсся горда над Беразіной.

Сучаснае і старажытнасць тут<br>Перапляліся разам і жывуць.

Цвіце найпрыгажэйшы горад мой!<br>Люблю цябе ўсім сэрцам, ўсёй душой!

Квітней, мой горад на Беразіне!<br>Другой Радзімы і не трэба мне!

*Усевалод Смоліч, 7 "В", СШ № 18*

## Барысаў у сне і наяве

Па сваёй прыродзе я фантазёрка, і таму мне часта сняцца цудоўныя неверагодныя сны. То я лятаю ў бяскрайніх касмічных прасторах, то трапляю ў падводнае марское царства ці ў непраходныя зараснікі сельвы.

А нядаўна мне сніцца сон, нібыта знаёмы голас гаворыць мне: "Ідзі і глядзі: такім будзе твой горад Барысаў у трэцім тысячагоддзі." І бачу я што на рацэ Бярэзіне стаіць прыгожы горад, акаймаваны з усіх бакоў лясамі і лугамі. Аблокі плывуць па блакітным небе, з якога льюцца на зямлю жывыя сонечныя промні, асвятляючы горад і пасылаючы сваё цяпло яго жыхарам. Нечакана я адчуваю сябе птушкай і, праляцаючы над горадам, бачу яго ва ўсёй красе.

Вышынныя рознага колеру жылыя дамы перамешваюцца з дзіўнымі паркамі і скверамі, шырокімі зялёнымі вуліцамі і алеямі, дзе прагульваюцца барысаўчане. А побач імчацца камфартабельныя аўтамабілі, аўтобусы, тралейбусы і трамваі. А колькі крам, палацаў культуры, цэркваў і касцёлаў, музеяў і тэатраў – будынкаў цікавай архітэктуры! Вялікая безліч!

Барысаў – горад, падобны на вялікую майстэрню, дзе працуюць таленавітыя людзі. Вось мастак малюе карціну залатога лістападу, скульптар заняты лепкай гістарычнай панарамы горада, швачка шые цудоўныя карнавальныя касцюмы, архітэктар стварае новыя праекты, рабочы кіруе робатамі, батанік вырошчвае экзатычную садавіну… І кожны на сваім рабочым месцы займаецца сваёй любімай справай, адчувае сябе майстрам, таму ў горадзе пануе атмасфера прыгажосці, цеплыні і шчырасці.

А якія гэта знешне прыгожыя людзі, высокія, стройныя, загарэлыя! Яны не толькі пяюць і танцуюць, але і бегаюць, скачуць, займаюцца на спартыўных трэнажорах. У іх распараджэнні знаходзяцца шматлікія секцыі, клубы, залы, стадыёны, басейны. "Здаровыя людзі - а значыць, шчаслівыя людзі," – падумалася мне.

Няўжо гэта мой горад?

І як толькі я пачула мілагучную, мяккую беларускую мову, то мае сумненні адразу рассеяліся. Гэта сапраўды мой горад, мая зямля, мая краіна!

Прачнуўшыся раніцою, я падумала, што кожны з нас мае права жыць у такім горадзе і можа наблізіць той час, калі ён стане шчаслівым. Толькі трэба быць працавітымі, разумнымі, добрымі, шчырымі. Бо менавіта такім людзям належыць будучыня.

*Таццяна Шумская, 9"Б", СШ № 18*

## Да дзевяцісотгоддзя Барысава

900 год – ні многа, ні мала,<br>Але колькі за імі ўсяго,<br>Што гісторыя нам расказала,<br>Пра што летапіс сведчыць даўно...<br>На рацэ, на Бярэзіне поўнай,<br>Князь Барыс заснаваў горад той,<br>Духам княжацка-моцным напоўніў,<br>Надзяліў яго моцай сваёй.<br>З таго часу стаіць векавечны,<br>Як нашчадкам жывы запавет,<br>Нібы голас ад продкаў спрадвечны,<br>Што гучыць на увесь белы свет.<br>Ён пражыў занепады і ўздымы,<br>Не аднойчы тануў у крыві.<br>Засцілаўся касцямі людскімі,<br>Дзеля міру на нашай зямлі.<br>Там гучалі і стрэльбаў раскаты,<br>І святочныя гоман і спеў.<br>Уздымаліся сцены і краты.<br>Ускіпалі і радасць, і гнеў...<br>900 год- ні многа, ні мала,<br>Але колькі яшчэ усяго<br>Нашы продкі ўсім нам завяшчалі<br>Пра Барысаў і веліч яго.

*Хрысціна Сінкевіч, 9А, СШ № 15*



Анастасія Грудніцкая, СШ № 20

## Барысаўскі вальс

Чайкі ў хвалях купаюцца,<br>Над плынню схіліліся лозы.<br>Горад рацэ ўсміхаецца,<br>Сваёй ганарыцца Бярозай.

Рака адлюстроўвае рысы<br>Будынкаў у водных хвалях.<br>Не старэе родны Барысаў,<br>Не знік у гісторыі далях.

Туман над вадою сцелецца<br>Хваля цалуе бераг.<br>Майму Барысаву мерыцца<br>Шчасця вялікая мера.

Чайкі ў хвалях купаюцца<br>Пад птушыныя галасы<br>Барысаву ўспамінаюцца<br>Даўнішнія часы.

*Насця Шэміт, 10 "А", СШ № 22*

## Прызнанне ў любві

На гэтай зямлі я жыву ўжо шаснаццаць год, і ўвесь гэты час я з табой, заўсёды побач. Мы звязаны з табой нябачнымі ніцямі, якія разарваць ніхто не здолее.

Ты бачыў, як я расла, наглядаў, як я з бесклапотнага дзіцяці ператваралася ў дзяўчыну, памятаеш, як я першы раз глядзела на свет здзіўленымі вачыма, як я сустрэла сваю першую вясну, памятаеш мае першыя радасці і турботы, каханне і слёзы. Толькі ты ведаеш аб усім, што здараецца ў маім жыцці.

Ты дараваў мне шмат прыемных momaнтаў. Дзякуй табе за кветкі, якія ты мне прыносіш у дар кожную вясну! Дзякуй табе за сяброў, якіх ты мне дапамог знайсці! Дзякуй за кожны дзень, за кожнае імгненне!

Упэўнена, што, нават калі нам прыйдзецца развітацца, я ніколі не здолею цябе забыць. Ты мой напамін пра дзяцінства, бацькоў, сяброў, пра лепшыя імгненні за шаснаццаць год майго жыцця.

Я ганаруся табой, тваім мінулым і заўсёды гавару з павагай пра тое, колькі перашкод ты пераадолеў, колькі карыснага зрабіў для чалавецтва.

Некаторыя сцвярджаюць, што цябе няма за што любіць: ты часам паўстаеш перад намі неахайным, брудным, ты не валодаеш неабсяжнымі багаццямі, не маеш гучнага сусветнавядомага імя...

Але, мне здаецца, мы і самі шмат у чым вінаватыя перад табой. Часам мы нават не заўважаем, якую шкоду табе прычыняем, а потым пытаемся адзін у аднаго, чаму ты гэткі стаў...

Таму я не абвінавачваю цябе ні ў чым, а заўсёды імкнуся зрабіць штосьці карыснае для цябе: перш за ўсё, проста быць добрым і шчырым чалавекам. Ведаю, гэта для цябе сапраўднае шчасце - бачыць мяне такой. І мне вельмі хочацца апраўдаць твае надзеі, таму што твая будучыня залежыць ад тых, хто побач з табой.

І хай ты не самы лепшы ў свеце, але я люблю цябе ўсім сваім сэрцам! За што? Разумееш, мы ж не задумваемся, за што любім нашых бацькоў. Мы любім іх, якія б яны не былі. Так і я люблю цябе, нягледзячы ні на што, люблю, мой родны горад Барысаў!

*Ліна Ківісцікава, 10 "Л-2", політэхнічны ліцэй*

*Старонку падрыхтаваў І.Белы*

# Дзень усіх закаханых

*Наш сённяшні агляд музычных навінаў можна прысвяціць дню святога Валянціна. Амаль ва ўсіх барысаўскіх дамах культуры прайшлі канцэрты і іншыя святочныя праграмы, якія былі прысвечаны дню ўсіх закаханых. Распавядзем пра найбольш значныя з іх.*

* * *

У дзень святога Валянціна ў нашай сталіцы – у Менску прайшоў канцэрт вядомых рок-гуртоў, які таксама быў прысвечаны дню закаханых. На ім выступалі як менскія, так і барысаўскія гурты. Сярод іх варта адзначыць гурт "Цягні – штурхай" і добра ўсім вядомыя "Грошы". Прычым "Грошы" выступалі з новай праграмай, якая вельмі ўзрадавала прыхільнікаў рок-музыкі. Канцэрт адбыўся ў вядомым менскім клубе "Акварыум". Уражвае і абстаноўка ў памяшканнях клуба, якая вельмі адпавядае элітарнаму клубу.

У гэты дзень у Менску амаль ва ўсіх клубах праходзілі шматлікія канцэрты, і таму кожны мог выбраць сабе адпачынак на свой густ.

* * *

15 студзеня з адставаннем на адзін дзень у доме культуры завода "Аўтагідраўзмацняльнік" таксама быў наладжаны канцэрт, які быў прысвечаны дню святога Валянціна. Па яго заканчэнні моладзь магла бавіць час на дыскатэцы. Арганізаваў акцыю БПСМ.

Перад моладдзю выступілі вядомыя тутэйшыя выканаўцы. Уразіла праграма, якая была складзена "Клубам аўтарскай песні". У ёй хлопцы і дзяўчаты выконвалі ўласныя песні, амаль усе з якіх былі на беларускай мове. Парадавала праграма, што была прадстаўлена камандай КВЗ СШ № 13 – пераможцаў у першым туры сярод барысаўскіх каманд клубаў вясёлых і знаходлівых. Выступалі і выпускнікі БДПК з камічнай праграмай – песняй "Электрычная каўбаса". Дапамагалі ім і сённяшнія навучэнцы каледжа.

Канцэрт прайшоў добра, вельмі спадабаўся моладзі, што прысутнічала на ім.

* * *

У рэчышчы святкавання дня святога Валянціна ў Барысаве прайшлі і іншыя мерапрыемствы.

*С.Байрашэўскі*



*Сувязь пакаленняў на Барысаўшчыне: наколькі яна моцная? Імгненне з жыцця ў Мётчы*

# "Пятніцу" – кожнаму "Рабінзону"!

*Чым вы занятыя вечарам у пятніцу? Калі на гэта пытанне ёсць што адказаць, то вы, лічыце, шчаслівы чалавек.*

Вядома ж, што ў пятніцу вечарам належыць адпачываць ад турбот напружанага працоўнага тыдня. Але вось як і дзе гэта рабіць? Асабліва ў тым выпадку, калі вы чалавек малады і маеце надта шырокія запатрабаванні да ўмоваў і месца адпачынку.

Маладзёжны адпачынак стараюцца арганізаваць належным чынам работнікі гарадскога Палаца культуры. Для гэтага ствараюць новыя праекты і адраджаюць тыя, што аказаліся незаслужана забытымі. Напрыклад, вечары адпачынку для рабочай моладзі пад памятнай назвай "Нашы пятніцы". Многія барысаўчане з задавальненнем успамінаюць іх разнастайную праграму з цікавымі конкурсамі для ўсіх жадаючых, прыгожымі канцэртнымі нумарамі самадзейнасці, а таксама выступленнямі прафесійных артыстаў. Бясплатны ўваход на пятнічныя вечары – таксама найлепшы ўспамін аб колішніх прынцыпах арганізацыі маладзёжнага адпачынку.

Такім чынам, для многіх і будзе прыемна пачуць, што "Нашы пятніцы" ў гарадскім Палацы культуры адраджаюцца разам з усімі ранейшымі іх прынцыпамі.

Першую спробу прадбачліва прыўрочылі да бясспрэчна маладзёжнай нагоды – Дня святога Валянціна. Пятніца, праўда, прыходзілася на 15 лютага, але гэта справе не перашкодзіла. Ды і праграма "У гасцях у Гіменэя" найлепшым чынам адпавядала пятнічнаму святочнаму настрою як шматлікай маладзёжнай публікі, так і арганізатараў.

Калі ўжо сабраліся ў гэты вечар аддаць павагу каханню, то і ажыццяўляць гэтую ва ўсіх адносінах важную справу даручылі людзям ва ўсіх адносінах кампетэнтным. Да ўдзелу ў конкурснай праграме было запрошана пяць маладых сямейных пар, стаж сумеснага жыцця ў якіх не перавышае года. Наталля і Максім Клешніны, Ала і Сяргей Макарэвічы, Святлана і Сяргей Панкрацьевы, Ганна і Барыс Татаркіны, Сяргей і Вольга Дзівіны згадзіліся ўдзельнічаць у конкурснай праграме яшчэ ў дзень рэгістрацыі шлюбу. Менавіта тады быў зняты відэафільм пад назвай "Ах, гэтае вяселле!", які і прапанавалі цяпер паглядзець гасцям праграмы, каб тыя ўбачавідкі пераканаліся, як тое было. А было ўсё ў дзень вяселля ўрачыста, эмацыянальна і вельмі індывідуальна для кожнай пары.

Пасля такога дэталёвага знаёмства з конкурсантамі перайшлі непасрэдна да конкурснай праграмы, якая павінна была дапамагчы раскрыцца найлепшым якасцям усіх без выключэння маладажонаў. Належыць таксама сказаць, што журы конкурсу было вельмі кампетэнтнае, але разам з тым і надта спагадлівае да ўдзельнікаў, добразычлівае. Разнастайныя таленты маладажонаў ацэньвалі намеснік старшыні гарвыканкама Валянціна Мікалаеўна Шутко і яе муж Анатоль Пятровіч, старшыня гарадскога жаночага савета Таццяна Мікалаеўна Дронава, загадчыца аддзела культуры гарвыканкама Алёна Аляксандраўна Ягорава, а таксама сямейныя пары, якія ўдзельнічалі ў падобнай конкурснай праграме ў мінулыя гады.

Выпрабаванні для конкурсантаў пачаліся з іх выказванняў аб уласным разуменні паняцця "сям'я", аб мэтах і задачах свайго далейшага сямейнага жыцця. А пасля маладыя жонкі малявалі партрэты мужоў і шылі ім модныя касцюмы. Мужы, у сваю чаргу, дэманстравалі свае здольнасці "здабытчыкаў" жыццёвых сродкаў для сям'і, прызнаваліся ў каханні і вернасці сваім суджаным. Потым яшчэ танцавалі, спявалі, жартавалі. Усё гэта было вельмі весела, дынамічна і праходзіла пры самай актыўнай падтрымцы глядзельнай залы.

Адным словам, незадаволеных тым пятнічным вечарам не было ні ў зале, ні на сцэне. Па ўсім было бачна, што пытанне аб тым, куды пайсці вечарам у наступную пятніцу, для многіх маладых людзей стала рытарычным. Бо "Рабінзон" урэшце знайшоў "Пятніцу".

*А.Турко*

# Не бракуе ў Барысаве талентаў!

*Калі гаварыць аб тым, на колькі Барысаў праяўляе свой патэнцыял у час 900-гадовага юбілею, то са староны боку гэтая з'ява прыкметна, бадай, толькі ў галіне культуры. Свае неардынарныя творчыя сілы барысаўцы ў літаральным сэнсе ад старога да малога дэманструюць цяпер ледзь не штодня.*

Вось, здавалася б, радавы канцэрт у гарадскім Палацы культуры, прысвечаны Дню абаронцаў Айчыны, але сабраў ён на сцэне цэлае сузор'е талентаў. Народны хор ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны і працы, якія з'яўляюцца ветэранамі і ў сэнсе творчага жыцця калектыву, не старэе сваёй натхнёнай песеннай душой. Юныя ўдзельнікі ансамбля танца "Ручаёк" гарадскога Палаца культуры па ўзросту прыходзяцца ўнукамі і праўнукамі сівым ветэранам, але іх харэаграфічная карцінка "Барбі" па натхненню і самавыяўленню нагадвала таксама прафесіянальны і вельмі адмысловы канцэртны нумар.

Вельмі прыемна ўсведамляць, што ёсць месца ў нашым горадзе і высокаму мастацтву. Ансамбль скрыпачоў музычнай школы і навучэнцы харэаграфічнай школы з'яўляюцца натхнёнымі носьбітамі цудоўнага і вечнага, што стварыла сусветная мастацкая культура. І тая ўдзячная аўдыторыя, якая сфарміравалася ў Барысаве за многія гады актыўнай прапаганды класічнага мастацтва мясцовымі творчымі ўстановамі, таксама адносіцца да багатага духоўнага патэнцыялу нашага старажытнага горада.

Самыя лепшыя творчыя дасягненні прысвячаюцца цяпер роднаму Барысаву. Песня "Горад над Бярэзінай" у выкананні неадназаровых пераможцаў абласных і рэспубліканскіх конкурсаў Уладзіміра і Мікалая Волегавых гучыць узнёслым гімнам яму, а таксама ўзрошчаным на яго спрыяльнай глебе талентам.

*А.Турко*

# Век жыві – век вучыся

*Універсітэт пажылога чалавека пад назвай "Залаты ўзрост" распачаў сёлета сваю работу ў абанементным аддзеле Цэнтральнай гарадской бібліятэкі.*

Яго разнастайная праграма, разлічаная на цэлы год, раздзяляецца на тры тэматычныя цыклы. Першым цыклам прадугледжаны самыя розныя мерапрыемствы для аматараў літаратуры. Другі пад назвай "Да душы знойдзеш дарогу" цалкам прысвечаны духоўнай, рэлігійнай тэматыцы. А трэці цыкл, бясспрэчна, павінен выклікаць цікавасць самай масавай аўдыторыі, паколькі тычыцца спраў дачных і мае нават прывабную назву – "Во саду ли, в огороде". Упершыню універсітэт пажылога чалавека заявіў аб сабе літаратурнымі чытаннямі, прысвечанымі 100-гадоваму юбілею нязгаснай кіназоркі мінулых гадоў – Любові Арловай. А зусім нядаўна чытачы старэйшага пакалення былі запрошаны ў бібліятэку на гутарку і кніжную выставу, з якіх пачарпнулі багатыя звесткі аб рэлігійным свяце Грамніцы. Што датычыцца іншых праваслаўных святаў на працягу года, то да кожнага з іх таксама прыўрочана асветніцкае бібліятэчнае мерапрыемства. Яшчэ ў рэлігійным цыкле універсітэта прадугледжаны кніжныя выставы, лекцыі, гутаркі, у якіх пойдзе гаворка аб хрысціянскіх адносінах да самых розных з'яў жыцця, аб духоўным узбагачэнні нашай паўсядзённасці. Запланавана, напрыклад, гутарка на тэму "Ураджай вырошчваем з малітвай".

Дачнае жыццё шматлікіх пенсіянераў актывізуецца, як вядома, у красавіку. Да гэтага ж часу прыўрочаны бібліятэчны "Круглы стол", на якім будзе абмяркоўвацца вопыт лепшых агароднікаў. Запланаваны таксама агляд літаратуры па тэме "Кветкі ў доме", тэматычныя агляды часопіса "Приусадебное хозяйство" і іншай спецыяльнай перыёдыкі. У рамках універсітэта пажылога чалавека таксама будзе задавальняцца інтарэс прагных да новых кухонных "адкрыццяў" гаспадынь. Бібліятэчныя работнікі з асаблівай натхнёнасцю рыхтуюць сустрэчу "Кухня без сакрэтаў", пад час якой пройдзе інтэнсіўны абмен вопытам лепшых гаспадынь нашага горада.

У полі зроку універсітэта – вялікія даты нашай культуры: 120-гадовыя юбілеі Якуба Коласа і Янкі Купалы, 120-годдзе з дня нараджэння Марыны Цвятаевай. На верасень запланавана падрыхтоўка літаратурнай кампазіцыі, прысвечанай Дню беларускага пісьменства і друку.

Паколькі "залатому ўзросту" ўласціва асаблівая прага да ведаў і новых дасягненняў, то і прапановы аднайменнага універсітэта па задавальненню ўсіх пажаданняў абяцаюць быць адпаведнымі.

*А.Турко*

# Хроніка культурнага жыцця

Добры падарунак да 8 Сакавіка рыхтуюць барысаўцам работнікі гарадскога Палаца культуры і вядомая беларуская спявачка Ліка. Яе канцэрт адбудзецца ў ГПК 7-га сакавіка. Шматлікія паклоннікі-мужчыны змогуць, як гаворыцца, злавіць двух зайцоў: самім паслухаць любімую спявачку і падараваць цудоўную сустрэчу з песняй сваім любімым жанчынам.

* * *

У выставачнай зале мастацтваў Цэнтральнай гарадской бібліятэкі зараз ідзе падрыхтоўчая работа да новай выставы па вельмі цікавай і сучаснай тэме – "Прамысловы дызайн". Адкрыццё экспазіцыі, якая абяцае быць вельмі разнастайнай і багатай, запланавана на пачатак другой дэкады сакавіка.

* * *

Незабыўны вечар прайшоў у сярэдзіне лютага ў Палацы культуры фабрыкі музычных інструментаў. Ушаноўвалі рабочага Яўгена Філіпскага, працоўны стаж якога на гэтым прадпрыемстве склаў пяць дзесяткаў гадоў. Залатому юбіляру працы прысвяцілі самыя лепшыя песні і танцы ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці. Адміністрацыя фабрыкі падарыла адданаму работніку тэлевізар.

* * *

Калектывам мастацкай самадзейнасці нашага горада даецца магчымасць для павышэння свайго статусу і мастацкага ўзроўню. Напрыклад, 16 лютага ў гарадскім Палацы культуры адбыўся агляд калектываў, якія не маюць звання "узорны" і "народны". Для лепшых з іх агляд з'явіўся сур'ёзнай прыступкай для атрымання гэтых званняў у бліжэйшым будучым.

Цэхавыя вечары і святочныя канцэрты правялі работнікі заводскага Палаца культуры для працаўнікоў БАТЭ напярэдадні Дня абаронцаў Айчыны і 8-га Сакавіка. Добры настрой забяспечылі пры гэтым не толькі яркія забаўляльныя і святочныя праграмы, але і святочныя падарункі завадчанам у выглядзе грашовых прэмій.

* * *

Трэцяга сакавіка гарадскі парк культуры і адпачынку імя Горкага гасцінна расчыняе дзверы перад усімі гараджанамі, якія хацелі б весела і звонка развітацца з зімой. Традыцыйнае свята з вясёлым тэатралізаваным прадстаўленнем, гульнямі і забавамі, падарункамі і прызамі вельмі радуе барысаўцаў ужо многія гады. Зразумела, што ўсё гэта было б немагчымым арганізаваць без удзелу спонсараў. Сёлета ў якасці іх выступілі саўгас "Гвардыя", заводы "Чырвоны металіст", пластмасавы, гуматэхнічных вырабаў, безалкагольных напояў, крыштальны, макаронная фабрыка і камбінат прыкладнога мастацтва.

* * *

З 21-га па 24-е сакавіка ў Барысаўскім раёне пройдзе рэспубліканскі семінар па тэме "Традыцыйная культура і дзеці", у якім будуць браць удзел прадстаўнікі Цэнтра культуры і адраджэння пры Менаблвыканкаме, спецыялісты абласных метадычных цэнтраў, кіраўнікі фальклорных калектываў, члены рэспубліканскіх маладзёвых арганізацый, выкладчыкі і навучэнцы мастацкіх навучальных устаноў. Да пачатку семінара прыўрочана адкрыццё Нова-Янчынскага Дома фальклору. У наступныя дні семінар будзе працаваць у Вяляціцах, Мётчы і Стара-Барысаве. У ім будуць удзельнічаць лепшыя фальклорныя калектывы Барысаўшчыны: народныя ансамблі "Лаўнічанка", "Спадчына", "Асалода", фальклорныя гурты "Берагіня", "Суседкі", "Прыданкі" і многія іншыя.

*Служба інфармацыі "ГБ"*



Бярэзіна-АФ перамагае. Мяч у карзіне супернікаў

# Спартыўны агляд

## *Футбол*

3 лютага ў матчы Лацыё (Рым) – Мілан барысаўскі нападнік Віталь Кутузаў, былы гулец БАТЭ, згуляў свой першы матч у італьянскім першынстве. Ён правёў у гульні 5 хвілін.

* * *

Каманда БАТЭ апошнім часам правяла некалькі таварыскіх матчаў.

**БАТЭ – Кубань** (Краснадар, Расія, д-2), 2:2 (Тарасенка 18, 31), **БАТЭ – Крылы Саветаў** (Самара, Расія), 1:3 (Ганчарык 85), **БАТЭ – Леводзія** (Маарду, Эстонія, д-1), 3:1 (Ганчарык 5, 6, Канцавы 58).

## *Міні-футбол*

9 лютага камандзе **Барысаў-900** была залічана тэхнічная перамога над ЦКК-3 з лікам 5:0.

* * *

Адбыўся матч **Барысаў-900 – Энергетык** (Навалукомль), 11:4 (7:2) (Спірыдонаў 4 галы, Басацкі 2 галы, Кералідзі 2 галы, Паўлавец, Свядыш, Лампартэр).

Уся гульня прайшла пад знакам перавагі барысаўцаў. Лёс гульні быў вырашаны ўжо ў першай палове гульні. Шмат момантаў гаспадары як заўсёды не выкарысталі.

* * *

12 – 13 лютага адбыўся фінальны турнір па міні-футболу сярод юнакоў 1989-90 гадоў нараджэння. Каманда барысаўскай ДЮСШ-2 атрымала перамогу ва ўсіх гульнях і ўпэўнена заняла першае месца. У турніры акрамя барысаўцаў удзельнічалі каманды з Салігорска, Заслаўя, Нясвіжа.

## *Баскетбол*

На жаночым першынстве Беларусі былі згуляны матчы **Алімпія (Горадня) – Бярэзіна АФ** (Барысаў), 48:51, 47:63, Бярэзіна АФ (Барысаў) – РУАР (Менск), 70:51, 74:57.

* * *

На мужчынскім першынстве Беларусі ў першай лізе адбыліся гульні **БК Менск – Папірус (Барысаў)**, 103:88, **Гродна-2 – Папірус (Барысаў)**, 92:81, **БДУ – Папірус (Барысаў)**, 102:82.

Калі і надалей так пойдзе справа, то барысаўская каманда мае ўсе шансы заняць апошняе месца ў турнірнай табліцы. Каманда прайграла ў першынстве амаль усе гульні.

* * *

12 – 14 лютага прайшлі занальныя спаборніцтвы Менскай вобласці сярод ДЮСШ, у якіх удзельнічалі юнакі 1987-88 гадоў нараджэння. У турніры прымалі ўдзел каманды з Барысава, Смалявіч, Беразіно, Крупак. Яго пераможцамі сталі барысаўцы.

* * *

14 – 16 лютага ў Барысаве праходзіў рэспубліканскі турнір па баскетболу памяці былога трэнера ДЮСШ-2 Ю.М.Селязнёва. У ім удзельнічалі ветэраны баскетбола з Барысава, выхаванцы ДЮСШ-2 1985-88 гадоў нараджэння і выхаванцы той жа школы 1987-88 гадоў нараджэння. Перамогу ў турніры атрымала каманда ветэранаў.

## *Грэка-рымская барацьба*

На пачатку лютага ў Лідзе праходзіў міжнародны турнір па грэка-рымскай барацьбе сярод кадэтаў 1985-87 гадоў нараджэння. На іх трэцяе месца ў вагавай катэгорыі 69 кілаграм заняў барысавец Яўген Собаль.

## *Каратэ*

2-3 лютага 2002 года ў Магілёве праходзіла адкрытае першынство беларускай федэрацыі ўсходніх адзінаборстваў па каратэ сярод дзяцей і юнакоў. У ім удзельнічалі спартсмены ад 10-і да 17-і год уключна. Спаборніцтвы праводзіліся ў двух вагавых катэгорыях – лёгкай і цяжкай. Агульная колькасць удзельнікаў спаборніцтваў – 250 чалавек.

Барысаў на спаборніцтвах у Магілёве прадстаўляла 29 юных спартсменаў. Пяцёра з іх занялі прызавыя месцы. Гэта Аляксей Будзіловіч (катэгорыя 10-11 год, лёгкая катэгорыя, другое месца), Кірыл Батура (катэгорыя 10-11 год, лёгкая катэгорыя, трэцяе месца), Дзмітрый Рогаў (10-11 год, цяжкая катэгорыя, трэцяе месца), Алег Пузыроў (катэгорыя 16-17 год, лёгкая катэгорыя, трэцяе месца), Максім Грахоўскі (катэгорыя 16-17 год, цяжкая катэгорыя, трэцяе месца).

## *Спартыўная гімнастыка*

8-9 лютага ў Барысаве праходзіла першынство Менскай вобласці па спартыўнай гімнастыцы сярод ДЮСШ. У іх прымалі ўдзел юныя спартсмены з гарадоў Барысава, Крупак, Маладзечна і Менска.

Сярод дзяўчат у групе кандыдатаў у майстры спорту сярод прадстаўніц нашага горада пераможцамі былі: Вольга Бараўля, СШ 11 (першае месца), Таццяна Жураўская, СШ 8 (другое месца).

У групе першага юнацкага разраду перамаглі барысаўцы Ліза Вашэцюк, гімназія № 1 (першае месца), Насця Бітэль, гімназія № 1 (другое месца), Таццяна Кулеш, СШ 2 (трэцяе месца).

У групе хлопцаў з першым юнацкім разрадам вызначыўся Коля Панамароў, які заняў другое месца.

У групе дзяўчат, якія маюць другі дарослы разрад, перамаглі барысаўкі Алеся Сілкіна, СШ 13 (першае месца), Валя Прыгажаева, СШ 8 (другое месца) і Маша Рогава, гімназія № 1 (трэцяе месца).

На падставе вынікаў спаборніцтваў была сфарміравана зборная ДЮСШ-1 сярод дзяўчат. У яе ўвайшлі Вольга Бараўля, Алеся Сілкіна і Вольга Прыгажаева. Іх трэнеры Ігар Генадзевіч Красікаў, Святлана Мікалаеўна Шчэрба і Аляксандр Пятровіч Грук.

## *Шахматы*

Адбылося першынство Барысава па шахматах сярод школ, якія маюць менш за 1000 вучняў. Каманды паказалі наступныя вынікі: першае месца – політэхнічны ліцэй, другое – гімназія № 2, трэцяе – гімназія № 3, чацвёртае – СШ № 12, пятае – СШ № 1.

## *Цяжкая атлетыка*

Завяршылася спартакіяда Менскай вобласці сярод моладзі па цяжкай атлетыцы. Спаборніцтвы прайшлі ў нашым горадзе пры значнай перавазе барысаўцаў. Прадстаўнікі тутэйшай СДЮШАР перамаглі ў 11 з 15 катэгорыях. Сярод тутэйшых спартсменаў першымі былі: у катэгорыі 32 кг. – Вячаслаў Малашчанка, у катэгорыі 34 кг. – Дзмітры Міхалюк, у катэгорыі 36 кг. – Уладзімір Круцько, у катэгорыі 48 кг. – Дзміцер Ліпкоўскі, у катэгорыі 52 кг. – Сяргей Якаўлеў, у катэгорыі 62 кг. – Вадзім Абрамовіч, у катэгорыі 69 кг. – Андрэй Арамноў, у катэгорыі 77 кг. – Уладзімір Маслоўскі, у катэгорыі звыш 77 кг. – Максім Саладар.

У дзяўчат у катэгорыі 48 кг. перамагла Анастасія Кузняцова, у катэгорыі 52 кг. – Юлія Старавойтава.

У агульным камандным заліку першае месца дасталося спартсменам з Барысава, другое – з Барысаўскага раёна, трэцяе – з Салігорскага раёна.

# Каго ўбачым у складзе БАТЭ?

*У хуткім часе мы пачнем сачыць за чарговым першынством Беларусі па футболу. Каго мы зможам убачыць у складзе БАТЭ? Сёння вам прапануецца спіс гульцоў барысаўскай каманды ў сёлетнім сезоне.*

**Брамнікі:** Юры Жыўноў, Аляксандр Федаровіч.

**Абаронцы:** Віктар Ганчарэнка, Аляксей Бага, Уладзімір Нявінскі, Андрэй Дзівакоў, Дзмітры Рагавік, Ігар Квяткоўскі, Генадзь Мардас, Дзміцер Молаш, Валеры Тарасенка.

**Паўабаронцы:** Вячаслаў Грыгараў, Аляксандр Лісоўскі, Аляксандр Ермаковіч, Алег Аляшкевіч, Аляксандр Кобец, Андрэй Шорах, Яўген Лашанкоў, Сяргей Мірончык, Вадзім Скрыпчанка, Алег Страхановіч, Аляксандр Цярэнцеў, Павел Шмігера, Ігар Чумачэнка.

**Нападнікі:** Павел Бяганскі, Арцём Ганчарык, Арцём Канцавы, Сяргей Крот, Уладзімір Таран.

* * *

Па складу бачна, што каманда БАТЭ у бліжэйшым сезоне будзе весці барацьбу за залатыя медалі. У міжсязонне, як мы ўжо паведамлялі, кіраўніцтвам клуба была праведзена ўдалая селекцыйная работа. Застаецца спрагназаваць, што галоўным канкурэнтам за чэмпіёнскі тытул будзе хутчэй за ўсё менскае "Дынама". За медалі пазмагаюцца гарадзенскі "Нёман" і салігорскі "Шахцёр".

Ну а цяпер пра трэніровачныя гульні, якія каманда праводзіла ў лютым у Анталіі (Турэччына).

Сатурн (Раменскае, Расія, першы дывізіён) – БАТЭ (Барысаў), 4:3 (Тарасенка 15, Канцавы 29, Бяганскі 64).

# Зорка Глеба на сусветным небасхіле

16 лютага на першынстве Нямеччыны былы гулец БАТЭ Аляксандр Глеб забіў мяч у сустрэчы Штутгарт – Вальсфбург. Гэты гол, як стала вядома потым, стаў пераможным для Штутгарта.

У гэтым сезоне Аляксандр выступае вельмі вынікова. Па сістэме гол + пас ён набраў 8 ачкоў (2+6). Вельмі прыемна, што юнае барысаўскае дараванне не згубілася ў адной з мацнейшых ліг свету. Ён пастаянна выходзіць у складзе каманды на поле. Яго партнёрамі з'яўляюцца такія вядомыя сусветныя зоркі, як Сольда (зборная Харватыі), Балакаў (зборная Балгарыі) і іншыя. Балакаў, напрыклад, на першынстве свету 1994 года ў ЗША заняў са сваёй зборнай чацвёртае месца, А Сольда на першынстве свету ў Францыі быў бронзавым прызёрам. Вельмі прыемна не згубіцца сярод такіх зорак.

Ведайце нашых!

# Госць нумара

*Сёння нашым гасцём з'яўляецца трэнер па каратэ-до (сіуль шатакан) Пашкевіч Уладзімір Васільевіч.*

**Калі ў Барысаве з'явілася каратэ?**

Каратэ ў нашым горадзе з'явілася ў 1981 годзе.

**Ці былі цяжкасці з прыцягненнем у секцыі маладых людзей?**

У гэтым плане цяжкасцей ніколі не было. Каратэ – гэта ўсходні від спорту. Ён заўсёды выклікаў цікавасць у барысаўцаў розных узростаў. Выпрабаваць сябе перад цяжкасцямі імкнулася шмат людзей. Нехта вытрымліваў, нехта не. Але заўсёды былі людзі, якія ішлі да намечаных мэтаў. Прыкладам можа служыць Анатоль Гайдук. Ён з'яўляецца бронзавым прызёрам Еўропы і свету, мае "black card" (адзіны на Беларусі). Гэты дакумент дазваляе ў любы момант патэлефанаваць у Японію і вырашыць узнікшыя праблемы пры дапамозе роданачальнікаў гэтага віду адзінаборства.

Трэба таксама адзначыць Аляксея Чэрнікава – чэмпіёна Еўропы па традыцыйнаму каратэ ў стылі шакатан. Дзяніс Корнеў – бронзавы прызёр кубка свету сярод клубных каманд, неаднаразовы чэмпіён Беларусі сярод юнакоў і дарослых.

Калі мы закранаем асобы, то нельга не адзначыць Нестара Гурскага. Ён быў трэцім на міжнародным турніры ў Сант-Пецярбурзе. Ён таксама ўдзельнічаў у кубку свету сярод юнакоў, неаднаразовы прызёр першынства Беларусі сярод дарослых. Шапіра Вадзім – чэмпіён Беларусі па каратэ сярод дарослых у вазе да 60 кілаграмаў. Ён быў кінуў займацца каратэ, шмат страціў, але цяпер вярнуўся і спрабуе навярстаць страчанае.

**Ці маецца база для трэніровак спартсменаў?**

Маецца добрая матэрыяльная база дзякуючы УП "Жыллё" і малому прадпрыемству "Фудакан".

**З якімі асноўнымі цяжкасцямі Вам даводзіцца сутыкацца?**

Самыя галоўныя цяжкасці – фінансавыя. Калі пачынаецца нейкі турнір, патрэбна шукаць грошы, каб можна было ўдзельнічаць у ім.

**Якія Вашы бліжэйшыя планы?**

Першынство свету ў Мадрыдзе (у траўні). Сярод барысаўцаў будуць, хутчэй за ўсё, выступаць Корнеў і Чэрнікаў, якія ўваходзяць у склад зборнай краіны.

**Ці маеце Вы магчымасць прыняць на трэніроўку ўсіх, хто жадае?**

На вялікі жаль, такой магчымасці няма. Але ў той жа час мы гатовы прыняць усіх мэтанакіраваных хлопцаў і дзяўчат. Мы прыкладаем шмат сродкаў і часу, каб адцягнуць дзяцей ад дрэннага ўплыву вуліцы.

**Напрыканцы нашай гутаркі хацелася б пажадаць поспехам вашым спартсменам.**

Дзякуй. Цяпер адбываецца змена пакаленняў, але праца ідзе і поспехі абавязкова будуць.

***Старонку падрыхтаваў С.Чарнуха***

*Напярэдадні адкрыцця сезона...*



# Без спартыўных пляцовак спорт развівацца не можа

*Хацелася б звярнуць увагу на развіццё дзіцячага спорту ў Барысаве. Калі мы вернемся на 15 – 20 гадоў назад, то ўзгадаем, што ў той час у горадзе было шмат спартыўных пляцовак.*

Яны былі амаль у кожным двары. Сёння пляцовак у горадзе амаль што няма. Маецца толькі адзін стадыён для майстроў, дзе гуляе каманда БАТЭ, і адна зала ў нашым басейне. Калі ў гэтай залі гуляе каманда Барысаў-900, то туды трапіць можа толькі невялікая частка тых, хто таго жадае. Калі быць аб'ектыўнымі, то гэта пляцоўка не зусім падыходзіць для гульняў такога ўзроўню.

У дадзены момант у нас маецца добрая каманда па жаночаму баскетболу Бярэзіна-АФ, якая летась заняла другое месца ў першынстве Беларусі і лідзіруе сёлета. Відавочна, што пляцоўкі, якія маюцца на сённяшні дзень, не адпавядаюць такім нормам.

Але вернемся да дзіцячага спорту. Дзе гуляюць ці маюць магчымасць гуляць нашы будучыя спартсмены? Футбалісты – на агародах у Пячах і на вуліцы Ватуціна каля вайсковай часткі, на балоце ў Залінейным раёне, дзе стаіць вада нават у самую спёку. Калісьці ў нас было дзве хакейныя пляцоўкі. Адна каля вячэрняй школы (каля чыгуначнага вакзала), другая на стадыёне. Зараз першай няма, другая знаходзіцца ў дрэнным стане. Аб лядовым палацы не можа быць і размовы. Па словах мясцовых трэнераў ДЮСШ, спартыўныя школы зараз не могуць забяспечыць выхаванцаў нават кедамі, майкамі. Ды і заробак трэнераў вышэйшай катэгорыі складае ўсяго 60 – 70 тысяч рублёў. А каб атрымаць вышэйшую катэгорыю, напрыклад, футбольнаму трэнеру, яго былому выхаванцу трэба заняць на першынстве Еўропы месца ў першай пяцёрцы. Гэта ў нашых умовах амаль што немагчыма.

Калі глядзець у будучыню тутэйшага спорту, само сабой узнікае пытанне: "Што нас чакае заўтра?".

*С.Чарнуха*

# Баскетбол: вынікі першага этапа

Пасля першага этапа жаночага першынства Беларусі маюцца наступныя вынікі.

| | Гульняў | Перамог | Паразаў | Ачкоў |
|---|---|---|---|---|
| **Бярэзіна АФ (Барысаў)** | 16 | 15 | 1 | 31 |
| **РШВСМ-Гарызонт (Менск)** | 16 | 11 | 5 | 27 |
| **Алімпія (Горадня)** | 16 | 10 | 6 | 26 |
| **РУОР (Менск)** | 16 | 2 | 14 | 18 |
| **Гомельская вобласць** | 16 | 2 | 14 | 18 |

Такім чынам, перад другім этапам наша каманда ўпэўнена займае першае месца. У другой частцы першынства барацьбу за медалі павядуць чатыры каманды. Калі быць рэалістамі, то бачна, што барацьбу за медалі здольны весці толькі тры калектывы. Гэта Бярэзіна АФ, РШВСМ-Гарызонт і Алімпія. Пасля другога тура пажадана быць першымі і па той прычыне, што калі пачнуцца гульні play-off у 1/2 фінала будуць паміж сабою гуляць каманды, якія занялі першае і чацвёртае месцы, другое і трэцяе месцы. З табліцы бачна, што сустракацца з РУОРам значна выгадней, бо дзяўчаты з гэтай каманды значна слабей за астатнія. Каманды, якія зоймуць другое і трэцяе месцы, патрабуюць значна больш маральных і фізічных высілкаў, што вельмі важна перад фіналам.

*С.Чарнуха*

# Распачынаецца конкурс для заўзятараў футбола

*Сёлета наша газета мае намер правесці другі конкурс для заўзятараў футбола. Ён будзе мець іншы фармат, чым летась. Конкурс будзе працягвацца да лістапада гэтага года.*

Такім чынам, правілы гульні:

1. Прымаюцца толькі арыгінальныя купоны.

2. Пачаць гульню можна з любога тура. Але чым пазней вы гэта зробіце, тым больш шанцаў вы даяце сваім канкурэнтам.

3. У картцы ў прамавугольніках неабходна адзначыць чакаемы вынік першага тайма матча (першы прамавугольнік), другога тайма (другі прамавугольнік) і вынік гульні (трэці прамавугольнік). Калі вы лічыце, што пераможа першая каманда, у адпаведным прамавугольніку ўказваецца лічба "1". Калі, на ваш погляд, пераможа другая каманда, указваецца "2", калі нічыя – "Х".

4. За кожны правільны адказ удзельніку конкурсу будзе нададзена па аднаму ачку. На картцы насупраць кожнага матча ў кожным прамавугольніку можа быць указаны толькі адзін вынік.

5. Ад аднаго ўдзельніка могуць дасылацца некалькі картак з рознымі варыянтамі адказаў, але пры гэтым кожная з іх абавязкова павінна мець сваю ўмоўную назву. Для кожнай умоўнай назвы балы будуць падлічвацца асобна.

6. Пераможуць тыя, хто за ўвесь час правядзення конкурсу – да кастрычніка 2002 года ўключна – набярэ большую колькасць балаў.

Для ўдзелу ў конкурсе неабходна выразаць картку яго ўдзельніка з бягучага нумара газеты, запоўніць яе і даслаць на адрас газеты **(222120, Барысаў-1, а/с 43)**. Тэрмін будзе вызначацца па паштоваму штэмпелю.

У першым туры сёлетняга конкурсу неабходна спрагназаваць вынікі таймаў і матчаў першага тура першынства Беларусі па футболу, якія адбудуцца 12 красавіка. Тэрмін падачы картак 10 красавіка.

Пераможцаў конкурсу і найбольш актыўных яго ўдзельнікаў чакаюць узнагароды.

Жадаем поспехаў!

## Картка ўдзельніка конкурсу

Першы тур

| | Першы тайм | Другі тайм | Вынік гульні |
|---|---|---|---|
| Зорка ВА-БДУ - Маладзечна-2000 | | | |
| Днепр-Трансмаш - Лакаматыў-96 | | | |
| Тарпеда Жд - БАТЭ | | | |
| Шахцёр – Белшына | | | |
| Дынама (Мн) - Гомель | | | |
| Дынама (Бр) – Славія | | | |
| Тарпеда МАЗ - Нёман-Белкард | | | |

Імя

Прозвішча

Умоўная назва
(указваць абавязкова, калі высылаецца некалькі варыянтаў адказаў ад аднаго чалавека)

Адрас  Тэлефон

# Конкурс для турыстаў

*Барысаўскі занальны турысцкі клуб працягвае на старонках газеты "Гоман Барысаўшчыны" конкурс, які прысвечаны 900-годдзю Барысава. Яго вынікі будуць падведзены ў верасні 2002 года. Пераможцы будуць узнагароджаны прызамі.*

Вынікі конкурсу будуць падводзіцца па суме набраных балаў. За кожны правільны адказ надаецца па аднаму балу.

Пытанні другога тура конкурсу:

1. Хто з барысаўцаў і ў якім годзе ўпершыню стаў чэмпіёнам Беларусі па велатурызму?

2. Назавіце самы заходні, усходні, паўночны і паўднёвы раёны былога СССР, у якім пабывалі барысаўскія турысты.

3. Хто і калі з прадстаўніцаў цудоўнага полу ўпершыню выканаў нарматыў майстра спорту па велатурызму ў Беларусі?

4. Хто, у якім годзе і па якому віду турызму і за які паход стаў чэмпіёнам СССР?

5. Хто з барысаўскіх voднікаў першым выканаў нарматыў інструктара па турызму?

Адказы неабходна дасылаць на адрас газеты: **222120, г.Барысаў-1, а/с 43**. Адказы будуць прымацца да 31 сакавіка. Дата будзе вызначацца па паштоваму штэмпелю.

Жадаем поспехаў!

# З гаспадарчага дзённіка Ганны Цюндзявіцкай

**Як выводзіць плямы ад тлушчу**

На шэрсць і баваўну наносяць жаўток, потым накрываюць белым кавалкам тканіны, паліваюць гарачай вадой, расціраюць і выціскаюць увесь час толькі праз сурвэтку. Паўтараюць гэта два ці тры разы, а потым мыюць.

З тканіны ж нельга інакш выдаліць плямы, як пасыпаць іх талькам і прасаваць, накрыўшы паперай, на стале, засланым сукном. Ці выціраць плямы, пакуль яны свежыя, ватай і разарванай напалам картай, але менавіта паклаўшы на што-небудзь цёплае, напрыклад на калена, бо ад моцнага трэння і цяпла знізу тлушч растане і лепш усмоктацца ў вату.

Можна таксама пасыпаць пляму мелам, накрыць прамакальнай паперай і па ёй вадзіць гарачым прасам, часта змяняючы паперу, каб рэч пад ёй не загарэлася.

Шкіпінарны алей выводзіць тлушч, але трэба толькі сачыць за тым, каб ён не разышоўся за межы плямы і не забрудзіў тканіну.

Найлепш, калі нешта тлустае трапіла на шаўковую ці шарсцяную тканіну, адразу выпаласкаць яго халоднай чыстай вадой. Пры гэтым рэч трымаюць вертыкальна і толькі паліваюць вадой, нічым не выціраючы, а пасля, моцна страсянуўшы, даюць прасохнуць. Рэшткі тлушчу выдаляюць ватай. Калі вада сцякла добра, дык пэўна ніякіх плям не будзе.

Льга яшчэ густа развесці пшанічны крухмал халоднай вадой, нанесці яго злёгку на плямы, накрыць зверху прамакальнай паперай і прасаваць, часта змяняючы яе на іншую.

Альбо можна палажыць на плямы жаўток сырога яйка, высушыць каля агню, потым жаўток выкрышыць. Так паўтарыць некалькі разоў.

*Перадаў М.Пучыла*

# Парады ад Наталлі

**Літоўская кухня**

*Як і беларусы, літоўцы не ўяўляюць свайго стала без бульбы. З яе гатуецца самая папулярная страва літоўскай кухні – цэпеліны (цэпелінай) і цэлы шэраг іншых традыцыйных страў літоўцаў, якія мы прапануем прыгатаваць нашым чытачам.*

**Цэпелінай**

Сырую бульбу таркуюць, адціскаюць, збіраюць крухмал. Частку клубняў гатуюць "у мундзірах", чысцяць, праціраюць і змешваюць з сырой бульбянай масай і сабраным крухмалам (маса сырой бульбы павінна ў тры разы перавышаць масу адваранай). З атрыманага цеста робяць нявялікія блінцы, на якія накладаюць мясны фарш з падсмажанай цыбуляй і загортваюць, надаючы прадаўгавата-акруглую форму. Вараць у малой колькасці вады. Ядуць са смятанай, цыбуляй, скваркамі.

**Бліны "Жэмайчю"**

Адвараную ў лупінах бульбу чысцяць, праціраюць, дадаюць яйкі і соль. Прыгатаваную масу начыняюць фаршам з адваранай ялавічыны ці ліверам, куды дадаюць падсмажаную цыбулю і чорныя молаты перац. Надаюць форму аладак і смажаць з двух бакоў. Перад ужываннем паліваюць соусам з масла і смятаны.

# Крыжаванка

***складзена па матэрыялах гэтага нумара***

**Па гарызанталі:** 1 – былы гулец футбольнага клуба БАТЭ; 2 – былы тутэйшы памешчык, землі якога знаходзіліся ў межах сучаснага Барысава; 3 – вуліца ў Барысаве; 4 – тутэйшы народны фальклорны ансамбль; 5 – абаронца футбольнага клуба БАТЭ; 6 – кінатэатр у Новабарысаве на пачатку XX стагоддзя; 7 – вуліца ў Барысаве ў 30-х гадах XX стагоддзя; 8 – тутэйшы маршалак дваранства ў другой палове 30-х гадоў XIX стагоддзя; 9 – тутэйшы народны фальклорны ансамбль; 10 – былы тутэйшы памешчык; 11 – паўабаронца футбольнага клуба БАТЭ; 12 – вёска на Барысаўшчыне, 13 – вёска на Барысаўшчыне; 14 – тутэйшы гурт; 15 – вядомы рэжысёр, які нарадзіўся ў вёсцы Вялікае Стахава; 16 – вуліца ў Барысаве.




**Адказы на крыжаванку**, што змешчана ў “ГБ” № 2(35): 1 – Падбярэззе; 2 – Дзяцінства; 3 – Поруш; 4 – Вытокі; 5 – Горкага; 6 – Спадчына; 7 – Дняпроўская; 8 – Дмахоўскі; 9 – Дудзінка; 10 – Шчуцкі; 11 – Ларыёнаў; 12 – Чапаева, 13 – Спірыдонаў, 14 – Раўніца, 15 – Пупелічы.




## Ці ведаеце вы, што...

150 год таму ў Барысаве штогод з разліку на 1000 чалавек у сярэднім заключалася 8,8 шлюбаў. Сярод тутэйшых праваслаўных гэта лічба складала 3,2, католікоў – 6,8, яўрэяў – 11,7, паміж праваслаўнымі і прадстаўнікамі іншых тутэйшых хрысціян – 1,7.

У той час у Барысаве ў сярэднім у год на 1000 чалавек нараджалася 46,9 немаўлят. Сярод праваслаўных гэта лічба складала 37,9, каталікоў – 39,0, стараабрадцаў – 224,2, яўрэяў – 57,3.

Па-за шлюбам у той час нараджалася ўсяго 6,0% дзетак. Сярод тутэйшых каталікоў гэта лічба складала 9,7%, сярод праваслаўных – 12,8%.

# Лічбавая крыжаванка

Ніжэй прыведзены пералікі лічбаў, якія згрупіраваны па іх колькасці. Вам неабходна падабраць і запісаць у незафарбаваныя радкі і слупкі лічбы такім чынам, каб супалі іх усе перасячэнні.

**7:** 1000272, 1035012, 1664892, 2357859, 3158754, 9517832;

**6:** 311581, 341895, 350548, 421421, 589712, 633210, 741539, 812564, 813862, 855223, 946488, 975321;

**5:** 02300, 10948, 11111, 18227, 21542, 25490, 32145, 34614, 36512, 40203, 40438, 44444, 45609, 59515, 59974, 61115, 61258, 65746, 78423, 82747, 87164, 89231;

**4:** 1001, 1653, 1713, 2002, 2432, 2682, 2689, 2891, 3228, 4261, 4332, 4487, 4852, 5150, 5321, 5711, 5955, 6874, 7777, 7889, 8182, 8632, 8880, 8888, 8951, 9999;

**3:** 090, 126, 161, 214, 243, 291, 324, 351, 412, 440, 442, 465, 478, 541, 562, 597, 627, 631, 658, 678, 764, 790, 819, 819, 846, 851, 876, 877, 931, 972, 992, 999;

**2:** 10, 20, 26, 41, 44, 51, 54, 54, 55, 55, 69, 74, 86, 96.




# З народнага гумару

Аднойчы спыталі ў лайдака:
- Што лепей: есці або ляжаць?
- Лепей за ўсе есці лежачы, - адказаў той.

* * *

Прыбеглі людзі на пажар і бачаць: стаіць рукі ў бокі стары Антось каля гумна са збожжам і хоць бы што. А гумно гарыць – ужо і страха абвалілася.
Крычаць мужыкі:
- Чаго ты стаіш? Дабро ж тваё прападзе.
- Ага. Але ж тут і мышэй ляснула.

* * *

Дзядзька Фама, у вашага суседа хата гарыць! – крыкнуў з парога хлопчык.
- Адкуль вецер? – спытаў дзядзька, паволі злазячы з печы.

# Японская крыжаванка

У японскай крыжаванцы неабходна адгадаць не словы ці размяшчэнне лічбаў, а выяву. Лічбы паказваюць, колькі груп чорных клетак знаходзяцца ў адпаведным радку або слупку і колькі суседніх чорных клетак утрымлівае кожная група. Групы падзелены паміж сабою не менш чым адной пустой клеткай. Пустыя клеткі могуць быць і па краях поля.



# З народнага гумару

Прыходзіць Максім з вечарынкі а шостай гадзіне раніцы. Убачыўшы яго, суседка пачала крычаць на свайго Грышку:
- Вось, людскія дзеці даўно ўжо гаспадараць, а ты ўсе спіш ды спіш!

* * *

-Скажы, хлопча, куды я зайду гэтым мастом?
-Як-то куды? На другі бок.

* * *

- Вам баліць зуб? Каб гэта быў мой, я зараз яго вырваў бы.
- І я гэтак зрабіў бы, каб гэта быў ваш.

*Падрыхтаваў М.Пучыла*

**Адказы на японскую і лічбавую крыжаванкі, што былі змешчаны ў “ГБ” № 2(35)**





ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Рэгістрацыйны нумар 595

Заснавальнікі: І.Белы, У.Буйко, У.Дубаневіч, М.Мацельскі, М.Пучыла.

Рэдактар М.Мацельскі

Юрыдычны адрас рэдакцыі: г. Барысаў, 1-ы зав. К.Лібкнехта, 1

Наклад 3000 паасобнікаў

Падпісана ў друк 18.30 04.03.2002 г.
Замова № 1622
Друкарня імя 1-га Мая
г. Барысаў, вул. Будаўнікоў, 33
e-mail: gomanbar@irex.minsk.by

*Адрас для пісьмаў: 222120, Барысаў-1, а/с 43*